# КАНТАКТЫ І ДЫЯЛОГІ

ІНФАРМАЦЫЙНА-АНАЛІТЫЧНЫ І КУЛЬТУРАЛАГІЧНЫ БЮЛЕТЭНЬ
Грамадскага аб'яднання "Міжнародная асацыяцыя беларусістаў"
і Грамадскай арганізацыі "Беларускае таварыства
дружбы і культурнай сувязі з замежнымі краінамі"

## ЗМЕСТ



• № 3 (51) • САКАВІК • 2000 • МІНСК • БЕЛАРУСЬ •

Заснавальнікі:
**Грамадскае аб’яднанне “Міжнародная асацыяцыя беларусістаў”,
Грамадская арганізацыя “Беларускае таварыства дружбы
і культурнай сувязі з замежнымі краінамі”**

Рэдкалегія:
**Эдуард ДУБЯНЕЦКІ (намеснік рэдактара),
Уладзімір КОНАН,
Ніна ІВАНОВА,
Адам МАЛЬДЗІС (рэдактар),
Любоў УЛАДЫКОЎСКАЯ-КАНАПЛЯНІК,
Генадзь ЦЫХУН,
Захар ШЫБЕКА**

Выдавецка-тэхнічная група:
**Наталля ДАВЫДЗЕНКА,
Юрась ЖАЛЕЗКА,
Яраслаў МАЛЬДЗІС,
Таццяна ПЯТРОВІЧ,
Тамара ШКУРКО**

Адрас рэдакцыі:
**Рэспубліка Беларусь, 220050, Мінск,
вул. Рэвалюцыйная, 15, Камітэт ГА “МАБ”**

Тэлефон: **+375 (017) 220 76 04**
Факс: **+375 (017) 220 93 50**

E-mail:
**mab@lingvo.minsk.by**

Электронны варыянт у InterNet:
**http://www.lingvo.minsk.by**

*На першай старонцы вокладкі —*
**На памежжы стагоддзяў і тысячагоддзяў у літоўскім горадзе Шальчынінкай быў адкрыты першы ў свеце помнік Кастусю Каліноўскаму работы беларускага скульптара Валяр’яна Янушкевіча.**

Бюлетэнь выдаецца і высылаецца толькі тым сябрам ГА “МАБ”, якія ўнеслі складкі.

Памер складак у месяц (з 2000 г.): у Беларусі — **350 рублёў**,
у краінах СНД — **2 USD**, Цэнтральнай Еўропы — **3 USD**,
Заходняй Еўропы, Азіі, на іншых кантынентах — **5 USD**.

Перыядычнасць выхаду — **1 нумар у месяц**.

Мовы выдання — беларуская, англійская і ў перспектыве — руская.

Паведамленні аб уплаце складак просім дасылаць на адрас рэдакцыі.

Складкі просім пераводзіць аднаму з заснавальнікаў бюлетэня —
**Камітэту ГА «Міжнародная асацыяцыя беларусістаў».**

Банкаўскія рахункі:
**рублёвы і валютны —
3015000005287 у Мінскім абласным упраўленні
АСБ “Беларусбанк” г. Мінска, код 807.**

***Вальдэмар Дэлюга (Варшава)***

# КРЫНІЦЫ І ІНСПІРАЦЫІ КСІЛАГРАФІЧНЫХ ІЛЮСТРАЦЫЙ ДА ВЫДАННЯЎ ФРАНЦЫСКА СКАРЫНЫ

**Вальдэмар Дэлюга** — доктар мастацтвазнаўства, прафесар, польскі даследчык гісторыі культур. Працуе ў Нацыянальным музеі (Варшава).

Выданні Францыска Скарыны ў гістарычным і моўным аспекце належаць да адных з найбольш даследаваных друкаваных выданняў у асяроддзі Праваслаўнай Царквы (1). Аднак па-ранейшаму вялікую цікавасць выклікае іх ілюстрацыйны матэрыял, таму што да канца не выяснена, адкуль паходзілі ксілаграфічныя дошкі і хто былі іх аўтары.

У дадзеным артыкуле я хачу акцэнтаваць увагу на складанасці праблемы, спыніўшыся, перш за ўсё, на адным друкаваным творы — “Малой падарожнай кніжцы”, выдадзенай у Вільні каля 1522 г. Адзін з яе экземпляраў, які найлепш захаваўся, знаходзіцца ў фондах Ягелонскай бібліятэкі ў Кракаве (2). Гэтае выданне было прадстаўлена на выстаўцы “Мастацтва царкоўнай ілюмінацыі і графікі”, якая адбылася ў 1996 г. у Нацыянальнай бібліятэцы ў Варшаве (3).

Скарына як друкар упершыню з’явіўся ў Празе, дзе ім была выдадзена Біблія ў 22 асобных кніжках, ім перакладзеных. У іх тэкстах знаходзіцца 45 вялікіх ксілаграфій, выкананых, як мяркуецца, чэшскімі майстрамі, што знаходзіліся пад уплывам нямецкага мастацтва. Беларускія даследчыкі падзяляюць ксілаграфіі Скарыны на дзве групы: 14 гравюр майстра манументальнага накірунку, які пазначыў адну са сваіх работ манаграмай MZ (партрэт Скарыны), а таксама астатнія гравюры, якія маглі быць выкананы некалькімі аўтарамі. Тытульныя лісты да асобных выданняў Бібліі былі адбіты з чатырох дошак у так званай “чорнай манеры”. Яны нагадваюць італьянскія і сербскія гравюры канца XV ст., але такога тыпу лісты можна было знайсці і ў чэшскіх выданнях, як, напрыклад, у лістах Марціна Лютэра 1523 г.

Першая група ксілаграфій, змешчаных у выданнях Бібліі, суправаджаецца родавым знакам выдаўца, які ўяўляе сабой злучаныя сонца і паўмесяц, упісаныя ў гербавы шчыт. На гэтых гравюрах можна заўважыць чужыя царкоўнаму мастацтву тэмы. Прыклад — “Каранацыя Марыі”, ксілаграфія, якая, напэўна, мае свой прататып у нямецкім гравюрным мастацтве пачатку XVI ст. Афармленне віньеткі ў “Песні песень” таксама адсылае нас да метадаў, якімі карысталіся Ізраэль ван Мекенэм або Лукас ван Лейдэн. Гэтыя ксілаграфіі выкананы досыць упэўнена ў традыцыях нямецкага, аўстрыйскага і чэшскага гравюрнага мастацтва, якое было звязана з так званай “наддунайскай школай”. Асаб-

ліва характэрны элементы рэалістычнага пейзажу. Можна меркаваць, што гравёр паходзіў з майстэрні, звязанай з дзейнасцю нюрнбергскіх графікаў, блізкіх да творчасці Міхеля Вольгемута, запазычваў у яго выкананне адзення і німбаў святых . Пяць гравюр і тытульны ліст да Бібліі пазначаны двума родавымі знакамі. Трэба меркаваць, што належаць яны аднаму і таму ж гравёру. Чарговая група ілюстрацыйных ксілаграфій, часцей за ўсё сцэны са Старога Запавету, належаць іншым аўтарам і, можа, паўторна адбіты з ксілаграфічных дошак. Аб гэтым сведчыць прыкметнае пашкоджанне ў цэнтральнай частцы кампазіцыі, якая знаходзіцца на першай старонцы кнігі Іова. Можа, іх трэба звязваць са старажытнагабрэйскімі пражскімі выданнямі, у якіх, нягледзячы на старазапаветную забарону, выкарыстоўваюцца фігуратыўныя ілюстрацыі. Далейшыя параўнальныя даследаванні могуць прынесці шмат новай інфармацыі на тэму старагабрэйскіх крыніц ілюстрацый у друкаваных творах Скарыны.



*Ілюстрацыя з «Малой падарожнай кніжкі» (Вільня, каля 1522 г.)*

У пражскіх друкаваных кнігах з’яўляюцца таксама дошкі, якія выкарыстоўваліся раней у інкунабульных выданнях. Прыкладам з’яўляецца ксілаграфія з Псалтыра 1517 г., якая прадстаўляе генеалагічнае дрэва Хрыста. Гравюра скампанавана паводле іканаграфічнай схемы, распрацаванай Міхелем Вольгемутам. Яна была адбіта з дошкі, якая ўпершыню выкарыстоўвалася ў выданні Новага Запавету, выдадзенага на чэшскай мове ў Празе ў 1497 г. Такую форму прадстаўлення можна знайсці таксама ў кракаўскіх ксілаграфіях пачатку XVI ст. Назавём тут Статуты Яна Галера 1506 г. Неабходна прыгадаць, што ксілаграфіі ў Новым Запавеце (па-чэшску Nový Zákon), гэта часта копіі гравюр, апрацаваных Вольгемутам.

Скарына карыстаўся абсталяваннем іншых друкарняў. Прыкладам запазычання з’яўляюцца дзве ксілаграфіі Міхеля Вольгемута, гравюры, змешчаныя ў “Малой падарожнай кніжцы”. На першай прадстаўлены Хрыстос, які стаіць у Іардане, з левага боку — Іаан Хрысціцель у руху хрышчэння, з правага — анёл, які трымае ў руках адзенне. Другая ілюстрацыя прадстаўляе Хрыста на троне, у час дыспуту з чатырма асобамі, якія сядзяць побач. Упершыню на гэтыя ксілаграфіі ўказаў В. Шматаў, мяркуючы, што яны нямецкага паходжання, звязваючы іх з выданнем “Сусветнай хронікі” Гартмана Шэдэля (4). Абедзве працы першапачаткова знаходзіліся ў інкунабуле, пра якую ўжо згадвала-

ся і якая была надрукавана ў 1493 г. у друкарні Антонія Кобергера ў Нюрнбергу. Згодна з распаўсюджаным тады звычаем, частка ксілаграфій была выкарыстана некалькі разоў, але згаданыя гравюры мы знаходзім толькі на аверсе 96 старонкі ў лацінскай версіі выдання. Дошка, якая складаецца з чатырох сцэн: "Благавешчанне", "Дыспут", "Хрышчэнне Хрыста" і "Укрыжаванне", выканана была, відаць, у майстэрні Вольгемута. У ліпені таго ж года твор з'явіўся ў лацінскай версіі, а ў снежні — у нямецкім выданні, самай вялікай ілюстраванай кнізе ў сярэдневяковай Еўропе, якая змяшчала 1809 ксілаграфій. Аўтарамі іх былі Міхель Вольгемут і яго пасынак Вільгельм Плейдэнвурф, якія ў 1491 г. падпісалі ўмову на выкананне гравюр як раўнапраўныя партнёры (5). Л. Слядэцэк лічыць, што работа над ксілаграфіямі распачалася ўжо ў 1489 г., калі ў майстэрні Вольгемута працаваў яшчэ Альбрэхт Дзюрэр — перш чым рушыць у вандроўку ў канцы 1489-га ці на пачатку наступнага года (6). Задумаемся над тым, якім жа чынам ксілаграфіі з лацінскага выдання трапілі ў праваслаўнае. Несумненна, яны былі навіной у такога тыпу выданнях. Памеры гравюр у віленскім выданні і "Сусветнай хронікі" амаль ідэнтычныя, толькі вышыня на два міліметры меншая, бо дошка на працягу 29 гадоў змяніла свой памер. У арыгінальным выданні дошка змяшчала чатыры сцэны, а ў больш позні перыяд яе падзялілі на некалькі частак. Згодна з тагачасным звычаем частка ксілаграфічных дошак выкарыстоўвалася некалькі разоў, нашы ж гравюры з'явіліся толькі адзін раз на аверсе 96 старонкі выдання лацінскай версіі. У кобергераўскім выданні знаходзіцца другі камплект гравюр, якія ўяўляюць сабой частку, дапаўняючую ўвесь цыкл. Гэта наступныя сцэны: "Божае нараджэнне", "Заручыны Марыі і Іосіфа", а таксама "Благавешчанне" — ілюстрацыі, якія змешчаны на аверсе 95 старонкі.



*Ілюстрацыя з кнігі «Nový Zákon» (Прага, 1497)*

Няма дастатковых падстаў, каб сцвярджаць, што дошкі Вольгемута Скарына набыў у Германіі ці яны належалі адной з якіх-небудзь пражскіх друкарняў, а можа, знаходзіліся ў адной з друкарняў Кракава. Ёсць меркаванні, што па дарозе з Падуі выдавец заязджаў у Нюрнберг. Некаторыя даследчыкі лічаць, што ў 1525 г. ён наведаў Лютэра, бо ў біяграфіі рэфарматара знойдзены ўспамін, што ён прымаў у сябе "паляка, доктара Францыска" (7). Г. Лаўмянскі рашуча адхіліў версію аб падарожжы Скарыны ў Германію, сцвярджаючы, што такое меркаван-

не абапіраецца на вельмі хісткія прадпасылкі (8). Больш праўдападобна, што Скарына не сустракаўся з Лютэрам, бо ў 1522–1525 гг. друкар ўжо знаходзіўся ў Вільні і там выдаў “Малую падарожную кніжку”. Ён не мог адначасова знаходзіцца ў Германіі. А. Белавусаў лічыць, што дошкі для выдання “Малой падарожнай кніжкі” Скарына закупіў у Кёнігсбергу (9). Цяжка пагадзіцца з гэтай гіпотэзай, бо першы кёнігсбергскі тыпограф Ян Вейнрайх распачаў сваю дзейнасць у 1524 г., друкуючы спачатку невялікія выданні накшталт аб’яў і афіцыйных дакументаў і не выкарыстоўваючы ксілаграфічных дошак (10).

Ініцыялы, якія мы знаходзім у “Малой падарожнай кніжцы”, таксама сведчаць пра лацінскія ўзоры. На 183 старонцы знаходзіцца ініцыял S, узор якога быў запазычаны з вялікага алфавіта, апрацаванага Ізраэлем ван Мекенэмам. Нідэрландскі мастак, што тварыў у канцы XV ст., выканаў велізарную колькасць гравюр, якія шматразова капіраваліся яго сучаснікамі-гравёрамі. Упершыню ініцыял ананімнага нямецкага гравёра з’явіўся ў нюрнбергскіх інкунабульных выданнях. Дошка выкарыстоўвалася Пятром Вагнерам (1483–1500). Таксама і іншыя ксілаграфіі, змешчаныя ў друкаваных нямецкіх выданнях, паўтараюць арыгіналы Мекенэма: гэта мы назіраем у Морыца Брандыса, які працаваў у Лейпцыгу ў 1488–1500 гг., а таксама ў інкунабулах Марціна Ландсберга, актыўнага друкара з Лейпцыга ў 1492–1500 гг.

Вядомы таксама копіі, апрацаваныя ананімным іспанскім гравёрам, творы якога змешчаны ў інкунабульных выданнях Бургоса.

Дзве астатнія ксілаграфіі з віленскага выдання “Малой падарожнай кніжкі” — гэта ілюстрацыі, якія прадстаўляюць “Благавешчанне” і “Марыю сярод анёлаў”. “Благавешчанне” мае свае аналогіі ў сярэдневяковай графіцы. Згадаем тут ксілаграфію, якая належыць да калекцыі нюрнбергскага выдаўца Гартмана Шэдэля. Пейзаж, прадстаўлены на гравюры друкаванага выдання Скарыны, нагадвае кампазіцыі паўднёванямецкіх гравюр, звязаных з “наддунайскай школай”, з кругам Шаўфеляйна ці венскіх майстроў (11). Абедзве згаданыя кампазіцыі падобны да ксілаграфіі, дзе прадстаўлены партрэт Скарыны, які знаходзіцца ў пражскім выданні “Ісуса Сірахава” 1517 г. У левым ніжнім вугле відаць дзве літары MZ, якія Л. Баразна тлумачыць як скарачэнне “Малюнкі здзелаў”, сцвярджаючы, што літара “z” стараславянская. Але нельга пагадзіцца з такой інтэрпрэтацыяй, бо літара “z” у такім напісанні вядома была ў сярэдневяковай Германіі. Манаграма з’яўляецца тыповым ініцыялам мастака, які пазначыў свой твор.

Прыгледзімся да ксілаграфій, змешчаных на тытульным лісце “Малой падарожнай кніжкі”. Ксілаграфічнае ўпрыгожанне на лісце было адбіта з пяці дошак рознай стылістыкі. Найбольшую частку займае ксілаграфія ў выглядзе суквецця са змешчанымі на іх Маці Божай з Дзіцем і двума каралямі. Такія менавіта выявы знаходзім у “Сусветнай хроніцы” Г. Шэдэля. Дошка, хутчэй за ўсё, была зроблена на мяжы XV і XVI стст. І звязваць яе трэба з нюрнбергскім або чэшскім асяроддзямі. Генеалагічнае дрэва Хрыста мае свае аналогіі ў калекцыі гравюр, якія знаходзяцца ва універсітэцкай бібліятэцы ў Вроцлаве. Гэта

фрагмент невядомай дэкарацыі інкунабулы, таму што на палях маюцца сляды шрыфта. Ілюстрацыя, змешчаная ў рукапісе, вельмі блізкая да кампазіцыі, якая знаходзіцца на тытульным лісце "Акафіста" Скарыны. Два бардзюры, змешчаныя каля ніжняга і верхняга краёў, блізкія да арнаментаў кёльнскіх ксілаграфій 1480 г. У тэхніцы ксілаграфіі такі элемент вядомы з гравюр чэшскага паходжання. Цікавым з'яўляецца раслліннае ўпрыгожанне каля правага краю — тут арнамент падобны сваёй стылістыкай да медзярыта Ізраэля ван Мекенэма. Як бачна, усе элементы, змешчаныя на тытульным лісце, яшчэ належаць да познесярэдневяковай стылістыкі, звязанай з развіццём графікі ў паўночных школах.

Названыя вышэй ксілаграфіі, якія паходзяць са старадрукаў Францыска Скарыны, — гэта невялікі збор твораў, выкананых ананімнымі гравёрамі, закупленых ў іншых графічных асяродках, а таксама ксілаграфій, зробленых спецыяльна па яго заказу.

Напрамкі далейшых пошукаў павінны быць скіраваны ў бок аўстрыйскага друкарства пачатку XVI ст. і яго сувязей з Кракавам і Прагай, таму што ўплывы нямецкай графікі канца XV ст. на ксілаграфію славянскіх краін досыць вядомыя. Тым не менш далейшыя пошукі дазволяць выявіць крыніцы і інспірацыі для ілюстрацый царкоўных старадрукаў.

---

(1) Владимиров П. В. Доктор Франциск Скорина: его переводы, печатные издания и язык. СПб., 1888; Баразна Л. Гравюры Францыска Скарыны. Мн., 1972; Анушкин А. Виленская типография Скорины // Книга: Исследования и материалы. М., 1975. Т. XXX. С. 171–172; Немировский Е. Л. Франциск Скорина: Жизнь и деятельность белорусского просветителя. Минск, 1990.

(2) Сігн. Cim. 561. Cf.; Немировский Е. Л. Издания Ш. Фиоля, Ф. Скорины и И. Федорова в книгохранилищах Варшавы и Кракова // Совет. славяноведение. М., 1975. С. 71; Кніга Беларусі 1517–1917. Мн., 1986. С. 48–49.

(3) Sztuka iluminacji i grafiki cerkiewnej. Warszawa, 1996. S. 53. Nr. 42 (там жа і бібліяграфія).

(4) Шматов В. Ф. Гравюры "Малой подорожной книжицы" Скорины и их источники // Памятники культуры: новые открытия. 1985. М., 1987. С. 193.

(5) Landau D., Parschal P. The Renaissance Prints 1470–1550. New Haven; London, 1994. P. 39. Stadler F. Michael Wolgemut und der Nürnberg Holzschnitt in letzten Drittel des XV. Jahrhundet // Studien Deutschen zur Kunstgeschichte. Strassburg, 1913. T. CLXI. S. 28.

(6) Sladecek L. Albrecht Dürer und die Illustrationen zur Schedelchronik: Neue Fragen um dem jungen Dürer // Studien Deutschen zur Kunstgeschichte. Baden-Baden; Strassburg, 1965. T. CCCXLII.

(7) Станкевіч А. Доктар Францішак Скарына — першадрукар беларускі (1525–1925). Вільня, 1925.

(8) Łowmiański H. [recenzja] // Ateneum Wileńskie. Wilno, 1925. Nr. 9. T. 3. S. 169.

(9) Белоусов О. Монограмма Ф. Скорины // Вокруг света. 1979. № 1. С. 42–44.

(10) Kawecka-Gryczowa A., Korotajowa K. Drukarze dawnej Polski od XV do XVII wieku. Wrocław i in., 1962. T. 2. S. 218.

(11) У якасці прыкладу ўкажам на выяву св. Станіслава, якая сустракаецца ў венскіх старадруках. Gollob Cf. H. Systematisches Beschreibendes Verzeichnis der mit Wienner Holzschnitten: Illustrierten Wieber Drucke vom Jahre 1482–1550 // Studien zur Deutschen Kunstgeschichte. Strassburg, 1925. T. CCXXXII. Il. 14.

*Пераклад з польскай* ***Ганны Цішук***

*Аляксандр Вабішчэвіч (Брэст)*

# ТАК ВЫРАШАЎСЯ Ў 1940 г. ЛЁС БІБЛІЯТЭКІ ПІНСКАЙ СЕМІНАРЫІ

**Аляксандр Вабішчэвіч** — кандыдат гістарычных навук, дацэнт Брэсцкага дзяржаўнага універсітэта імя А. С. Пушкіна. Даследуе праблемы нацыянальна-культурнага развіцця Заходняй Беларусі ў 1920–1930-я гг. Сааўтар дзвюх кніг, аўтар больш 70 вучэбна-метадычных і навукова-папулярных публікацый.

З пачатку 1990-х гг. у друку Беларусі, на навуковых канферэнцыях пачалі згадваць аб вывазе ў 1940 г. бібліятэкі былой каталіцкай семінарыі ў Пінску (1). Аднак да цяперашняга часу ніхто з даследчыкаў дэталёва не ўнікаў у гэтае пытанне. Паспрабуем высветліць, як тады ўсё адбывалася, спасылаючыся на архіўныя крыніцы і ўспаміны. Мяркуем, што гэта можа дапамагчы ў далейшай рабоце грамадскай камісіі “Вяртанне” пры Беларускім фондзе культуры.

Вераснёўскія падзеі 1939 г. у гісторыі беларускага народа маюць адметнае значэнне. Здзейснілася з’яднанне Заходняй Беларусі з БССР. Нарэшце была адноўлена тэрытарыяльная цэласнасць Беларусі. Пасля амаль двух дзесяцігоддзяў нацыянальна-культурнага ўціску ў заходнебеларускага насельніцтва з’явіліся надзеі на паляпшэнне свайго становішча. І спадзяванні гэтыя ў многім спраўдзіліся. Хоць былі і трагічныя падзеі, звязаныя з усталяваннем у заходніх абласцях БССР каманднa-адміністрацыйнай сістэмы сталінскага ўзору, — арышты, высылкі, расстрэлы і інш., аднак было і шмат станоўчых змен. Напрыклад, кардынальныя пераўтварэнні адбываліся ў сферы адукацыі, культуры: перавод школ на беларускую і іншыя нацыянальныя мовы, ліквідацыя непісьменнасці, адкрыццё новых сярэдніх, вышэйшых навучальных устаноў, новых тэатраў і г. д.

Тым не менш, далёка не ўсе спадзяванні збыліся. Так і не ўдалося і мясцовым, і рэспубліканскім органам улады спраўна праявіць клопат пра сапраўдныя гісторыка-культурныя скарбы беларускага народа. Урад БССР 22 снежня 1939 г. прыняў пастанову “Аб ахове ў заходніх абласцях БССР помнікаў рэвалюцыі, мастацтва і помнікаў даўніны, а таксама захаванні архіваў”, паводле якой без ведама і дазволу СНК рэспублікі забаранялася разбурэнне помнікаў мінулага, знішчэнне і раскраданне архіваў, вываз мастацкіх і архіўных каштоўнасцей. Такім чынам, праблема зберажэння спадчыны мінуўшчыны была абвешчана дзяржаўным клопатам. Аднак у рэальным жыцці такі падыход не заўсёды захоўваўся. Яскравым прыкладам з’яўляецца вываз у Маскву ўжо згаданай бібліятэкі каталіцкай семінарыі ў Пінску. Газета “Известия” (1940, 7 верас.) паведам-

ляла, што Цэнтральны антырэлігійны музей у Маскве чакаў адтуль два вагоны старажытных кніг і рукапісаў.

Прыведзены ніжэй тэкст архіўнага дакумента прасвятляе пытанне аб тым, як гэты вялікі кнігазбор апынуўся за межамі рэспублікі — і не толькі з-за заганнай практыкі цэнтральных органаў кіравання адбіраць здабыткі гісторыка-культурнай спадчыны савецкіх народаў у Маскву, але таксама і з-за абыякавасці мясцовых чыноўнікаў. Варта ўлічваць і фактар ваяўнічага атэізму ў тыя часы. Як не прывесці тут цытату з энцыклапедычнага выдання: рэлігія з'яўляецца "мировоззрением, вредным для пролетариата и крестьянства, для угнетенных классов и угнетенных народностей, и полезным лишь для господствующих классов монархических и буржуазно-демократических государств нашего времени…" (2). Адсюль і адпаведныя адносіны да каштоўнасцей царквы. Аднак звернемся да крыніцы — дакладной запіскі старшыні Пінскага аблвыканкама Аўксенція Малахавіча Мінчанкі ў Мінск на імя сакратара ЦК КП(б)Б Панцеляймона Кандрацьевіча Панамарэнкі. Дакумент падаецца без змяненняў, на мове арыгінала:

"Секретарю ЦК КП(б)Б Белоруссии
тов. Пономаренко

**ДОКЛАДНАЯ ЗАПИСКА**
**Как была ликвидирована библиотека в г. Пинске**

В г. Пинске при бывшей католической духовной семинарии осталась библиотека примерно в количестве 40 тысяч томов, состоящих главным образом из богословской, научно-исторической, художественной и др. литературы.

Литература была на различных языках — латинском, греческом, французском, польском, русском, языках народов Востока и т. д. Среди книг этой библиотеки имелись ценнейшие издания XV, XVI, XVII и XVIII вв., например: Вольтер — полное собрание сочинений до 1 тысячи томов издания 1492 года *. Имелся также и рукописный фонд. Библиотека представляла большую научную ценность.

Помещение бывшей духовной семинарии было занято под военный госпиталь. Руководство госпиталя весь фонд литературы свалило в беспорядочном состоянии в одну комнату и неоднократно настаивало освободить помещение.

В мае месяце секретарь Обкома по пропаганде тов. Улазов обращался в Академию наук БССР к тов. Горину и просил оказать помощь в разборе и определении использования этой библиотеки. Однако со стороны Академии наук не были приняты соответствующие меры.

Командированный Академией наук один товарищ ничего не сделал, только посмотрел и уехал. 17 мая 1940 г. зам. зав. отделом пропаганды и агитации Обкома КП(б)Б тов. Бикашов обрашался к секретарю ЦК КП(б)Б тов. Малину с письмом, в котором просил воздействовать на Академию наук и прислать специалистов. 5 августа тов. Малин сообщил, что Академии наук БССР разрешается принять и вывезти в г. Минск библиотеку и архив быв. духовной семинарии, но представителей Академии так и не было.

Зав. Облоно тов. Старикович с ведома зам. зав. отделом пропаганды и агитации Обкома КП(б)Б тов. Бикашова обратился с письмом в Центральный антирелигиозный музей с просьбой оказать помощь в разборе библиотеки и принятия некоторого количества книг, имеющих ценность для музея.

Центральный антирелигиозный музей прислал своего работника, которому тов. Старикович разрешил вывезти 33 тыс. томов книг. Оставшаяся литература находится: около 4 тыс. томов в городском парткабинете в неразобранном виде, 1 тыс. томов в Пинском музее и 2 тыс. в городской библиотеке.

Прошу тов. Пономаренко воздействовать на руководство Академии наук БССР о присылке работника, который смог бы определить ценность и порядок использования оставшейся литературы.

15.X.1940 г. Секретарь Пинского обкома КП(б)Б Минченко".

(Машынапіс, копія; Дзяржаўны архіў Брэсцкай вобл. Ф. 7581, воп. 1, спр. 19, арк. 191–192).

---

* Памылка. Трэба — 1792 г.

У верасні 1999 г., у час работы ў Пінску Міжнароднай навукова-краязнаўчай канферэнцыі "Палессе — скрыжаванне культур і часу", нам пашанцавала паслухаць Ніну Уладзіміраўну Ільянкову. Яна, 11-гадовай дзяўчынкай, была сведкай вывазу той бібліятэкі. Яе бацька працаваў тады на чыгунцы. Як згадвала Ніна Уладзіміраўна, пагрузка кніг у вагоны адбывалася неахайна. Штосьці з кніг забралі сабе рабочыя-грузчыкі. Памятае яна, як ёй у рукі пазней трапілі цудоўныя томікі Уільяма Шэкспіра.

Неабходна яшчэ дадаць, што неўзабаве рэспубліканскія ўлады ўстрывожыліся наконт лёсу іншых каштоўнасцей. Старшыня Прэзідыума Вярхоўнага Савета БССР Нікіфар Якаўлевіч Наталевіч разаслаў ліст-папярэджанне кіраўнікам савецкіх органаў, устаноў культуры:

**"Всем председателям областных и районных исполнительных комитетов, городских Советов, директорам музеев.**

В последнее время наблюдаются случаи вывоза различными научными учреждениями и даже отдельными частными лицами важнейших культурно-исторических ценностей, хранящихся в архивах БССР, музеях, быв. дворцах, имениях и т. п., производимого без ведома и разрешения правительства БССР. Так была вывезена в начале сентября т. г. весьма ценная в историческом отношении библиотека бывшей в Пинске католической семинарии в количестве 30 000 томов. Таким же образом было передано хранившееся до сих пор в Слонимском районном музее подлиное письмо Пушкина. Некоторые музеи командируют в БССР своих научных работников исключительно с целью вывоза предметов древности, культуры и искусства.

До сего времени не прекращаются также случаи варварского отношения к подобного рода памятникам, вплоть до полного их уничтожения. Древние курганы и городища распахиваются, иногда даже целиком сносятся. В гор. Давид-Городке с ведома местного горсовета разрушается городище — остатки древнерусского города 12–13 вв. В г. Волковыске раскапывается (с целью добычи глины) подобное же городище. В дер. Дятлове Кохановского района взорван для получения щебня так называемый "Рогволодов камень" с надписью 1171 года. Со стороны местных органов сплошь и рядом не наблюдается должного внимания к охране исторических памятников. В связи с этим примите самые решительные меры к недопущению вывоза указанных культурных ценностей без специального на то разрешения правительства БССР. Все факты

дальнейшего вывоза культурных ценностей из пределов БССР без санкции верховных органов республики должны рассматриваться как самочинные действия с вытекающими отсюда последстиями.

Одновременно обращаю Ваше сугубое внимание на постановку дела тщательной охраны всех памятников древности, культуры и искусства, строго пресекая всякие попытки их разрушения.

5.XI.1940 г. Председатель Президиума Верховного Совета БССР
г. Минск Н. Наталевич".

(Машынапіс, копія; Дзяржаўны архіў Брэсцкай вобл. Ф. 282, воп. 1, спр. 57, арк. 238).

Цяжка сказаць, наколькі дабратворна паўплывала гэтае папярэджанне на зберажэнне гісторыка-культурнай спадчыны на заходнебеларускіх землях. Ва ўсякім выпадку, кардынальных змен не адбылося. Акрамя таго, неўзабаве мірнае жыццё было перапынена вайной.

---

(1) Бабёр М. Зноў пра нясвіжскія скарбы // Літ. і мастацтва. 1993. 26 сак.
(2) Ярославский Е., Швабе М. Антирелигиозная пропаганда // Большая Советская Энциклопедия. М., 1926. Т. 3. С. 59.

*Арсень Ліс (Мінск)*

## ВІЛЕНСКІЯ МАТЭРЫЯЛЫ ПА ГІСТОРЫІ БЕЛАРУСКАЙ ІНТЭЛІГЕНЦЫІ

**Арсень Ліс** — доктар філалагічных навук, лаўрэат Дзяржаўнай прэміі Беларусі. Працуе ў Інстытуце мастацтвазнаўства, этнаграфіі і фальклору імя Кандрата Крапівы НАН Беларусі. Аўтар фалькларыстычных прац, манаграфій пра дзеячаў заходнебеларускай культуры.

У імклівым гоне жыцця, мітуслівым нашым бытаванні не паспяваем мы шырэй агледзецца, ацаніць нешта істотнае ў сваім зямным часе, важнае не толькі сягоння, але і для будучыні. І, пэўна, не ў апошнюю чаргу гэта датычыцца нашых духоўных здабыткаў. І, мабыць, не ў абсалютна канкрэтных іх велічынях, усёй паўнаце, а, беручы хоць бы найбольш важнае, — у галоўных напрамках. Перадусім — у беларусазнаўстве, ці, выказваючыся больш самавіта — у беларусістыцы.

Радасна ўсведамляць, і, спадзяюся, са мной пагодзіцца кожны неабыякавы чалавек, што яшчэ сягоння з поўнай аддачай на розных дзялянках беларусазнаўства працуюць прадстаўнікі шасцідзесятнікаў. Назавём не ўсіх, адно тых, што самыя на віду: братоў Грыцкевічаў, Віктара Каваленку, Алеся Каўруса, Генадзя Кісялёва, Уладзіміра Конана, Альфрэда Майхровіча, Сямёна Падокшына, Паўла Сіцько, Георгія Штыхава, Язэпа Юхо, Леаніда Яўменава.

Не менш радасна бачыць, які шырокі абсяг на ўсёй беларусазнаўчай прасторы занялі сягоння маладыя навуковыя сілы. Прычым рупяцца і там, дзе раней цэлыя дзесяцігоддзі — хоць у фармулярных спісах, напрыклад, у той жа філасофіі, значыліся людзі з высокімі званнямі, а на практыцы, кажучы народным выслоўем, было адно мадзенне. А сягоння маем самавіты спецыяльны часопіс “Фрагмэнты”, а галоўнае — самастойную філасофскую думку ў яе беларускай існасці, рэпрэзентаваную Валянцінам Акудовічам, Алесем Анціпенкам, Ігарам Бабковым, Юрасём Барысевічам... Не проста зрух, а прарыў і якасна новае з’явішча.

Тым часам на такой лёсавызначальнай для памыснага развіцця кожнай нацыі духоўнай дзялянцы, як гістарычная навука, здабыткі апошняга дзесяцігоддзя проста нельга перааацаніць.

Пры выкананні даследчыцкіх планаў у Інстытуце гісторыі НАН Беларусі і ВНУ краіны, гуртавання вакол рэдакцый часопісаў “Спадчына”, “Беларускі гістарычны агляд”, “Беларускі гістарычны часопіс” на вачах сфарміравалася, вырасла маладая, творча актыўная генерацыя самавітых руплівцаў айчыннай гісторыі. Назавём асноўных сярод іх: Віктара Астрогу, Алеся Белага, Андрэя Кіштымава, Аляксандра Краўцэвіча, Валянціну Лебедзеву, Аляксея Літвіна, Уладзіміра Ляхоўскага, Уладзіміра Міхнюка, Генадзя Сагановіча, Віталя Скалабана, Алеся Смаленчука, Ніну Стужынскую, Янку Трацяка, Анатоля Цітова.

Рэальным плёнам засведчыла пра сабе, у тым ліку выхадам ў выдавецкую дзейнасць, маладое пакаленне літаратуразнаўцаў і крытыкаў. А персанальна гэта перад ўсім Валерка Булгакаў, Пятро Васючэнка, Галіна Тычка, Міхась Тычына, Вольга Шынкарэнка, Язэп Янушкевіч, Алена Яскевіч.

Усё больш пераканаўча заяўляе пра сябе маладое, незнаёмае племя беларускіх культуролагаў, фалькларыстаў, этнолагаў, этналінгвістаў, сацыёлагаў, мастацтвазнаўцаў, эканамістаў. Авалодаўшы новай і найноўшай навуковымі методыкамі, яны досыць настойліва ўводзяць беларускі культурны маладняк ў агульнаеўрапейскі кантэкст.

Дастаткова пагартаць шматлікія зборнікі навуковых і навукова-практычных канферэнцый, праведзеных у розных універсітэцкіх асяродках краіны, каб пераканацца, з якім творчым напорам ідзе ў гуманітарыстыку моладзь. Маем грунтоўны інтэлектуальны патэнцыял. З ім можна падымаць фундаментальныя праблемы быцця этнасу, яго экзістэнцыянальных асноў. І зусім рэальна, напрыклад, падступіцца да такой актуальнай праблемы, як гісторыя беларускай інтэлігенцыі. Нешта ў аспекце: “ідэі, лёс, спадчына”. І не толькі мастацкай інтэлігенцыі. Тут ўжо маюцца неблагія напрацоўкі, падобныя да біябібліяграфічнага слоўніка пісьменікаў, энцыклапедый, даведнікаў. Але час пісаць гісторыю ўсёй інтэлігенцыі — у тым ліку тэхнічнай, прыродазнаўчай, а не толькі навуковай. Для вырашэння гэтай праблемы яшчэ патрэбна немалая пошукавая праца ў архівах. Апошнія гады яна вялася досыць інтэнсіўна. Адпалі (праўда, апошнім часам не ўсе) перашкоды забароннага характару, але ўзніклі новыя — фінан-

савыя. З-за іх амаль недаступнымі сталі беларускія архіўныя фонды Вільнюса. А там нашых матэрыялаў пачатку стагоддзя, міжваеннага часу ды часоў далёкіх, старажытных — яшчэ выбіраць і асэнсоўваць на гады.

Беларускія навукоўцы сабралі ў вільнюскіх архівах ўжо нямала дасевак. Але ёсць нямала фактаў, параскіданых у персанальных фондах польскіх і літоўскіх дзеячаў XIX – пачатку XX ст., якія маюць беларускі кантэкст. Слаба выбраны беларускія культурныя рэаліі з фондаў Таварыства прыяцеляў навук, да заснавання якога прычыніўся такі карыфей навуковай славяншчыны і літуанікі, як Ян Карловіч. Не адшуканы ў поўнай меры матэрыялы Беларускага навуковага таварыства, заснаванага І. Луцкевічам у 1918 г. Не агледжаны архіўныя дакументы, матэрыялы Беларускага студэнцкага саюза і Таварыства беларусаведы, што існавалі пры Віленскім універсітэце ў міжваенны час.

Для вывучэння дзейнасці заходнебеларускіх пісьменнікаў, дзеячаў культуры, мастацтва 20–30-х гг. неацэнную каштоўнасць уяўляюць матэрыялы Віленскага акруговага суда. Як сведчаць архіўныя вопісы, праз яго праходзілі такія вядомыя беларускія інтэлігенты, як Антон Грыневіч, Хведар Ілляшэвіч, Сяргей Паўловіч, Сымон Рак-Міхайлоўскі, Алесь Салагуб, Максім Танк, Валянцін Таўлай, Рыгор Шырма і многія іншыя.

Судовыя справы вельмі істотна дапаўняюць біяграфіі людзей. Мне, напрыклад, ні аўтабіяграфія, напісаная А. Грыневічам па просьбе музыказнаўца К. Квіткі і захаваная ў архіве Інстытута імя Гнесіных ў Маскве, ні кароткая аўтабіяграфія, зафіксаваная ў паперах архіва КДБ, не далі столькі фактаў з жыцця гэтага самаахвярнага працаўніка на ніве беларускай культуры, як яго судовая справа ў Віленскім акруговым судзе 1921 г. Польская дэфензіва, хоць не здолела пераняць усяго з методыкі спецслужбаў вялікіх таталітарнасцей свайго часу, усё ж умела здабываць факты, каб спыніць ці, прынамсі, абмежаваць беларускую адраджэнскую працу.

Архівы старажытнай Вільні хаваюць яшчэ нямала сведчанняў нашага багатага інтэлектуальнага жыцця ў мінулым.



*Вучаніцы Беларускай гімназіі імя Ф. Скарыны ў Вільнюсе Эмілія і Маргарыта Стральчэня са сваімі малюнкамі, прысвечанымі ўсходнеславянскму першадрукару*

## ДНІ ІРЛАНДЫІ Ў БЕЛАРУСІ

Беларускае таварыства дружбы і культурнай сувязі з замежнымі краінамі, Таварыства “Беларусь – Ірландыя”, Дзіцячы фонд “Сакавік” з ўдзелам Нацыянальнага навукова-асветнага цэнтра імя Ф. Скарыны 17–23 сакавіка правялі Дні Ірландыі ў Беларусі. Пачаліся яны ў Дзень св. Патрыка, які стаў нацыянальным святам “зялёнай краіны”, прыёмам у Мінскім гарвыканкаме, сустрэчай у Доме дружбы, шэсцем і канцэртам у парку імя М. Горкага і святочнай вечарынай у тым жа Доме дружбы.




18 сакавіка адбыўся семінар ”Беларуска-ірландскія гістарычна-культурныя сувязі: Беларусь і Ірландыя ў сучасным свеце”. Прысутным была прэзентавана кніга “Беларусь – Ірландыя”, падрыхтаваная ў Цэнтры імя Ф. Скарыны. Затым з навуковымі дакладамі і паведамленнямі выступілі (пераважна на англійскай мове) настаўніца Марына Елінская, мастацтвазнавец Валерый Буйвал, мовазнавец Уладзімір Кошчанка, студэнт Іван Аліевіч. Ад імя ірландцаў удзельнікаў вітаў містэр Брандан. А вечарам таго ж дня ў тэатры “Дзе-Я” прайшлі сустрэча беларускай і ірландскай інтэлігенцыі і сумесны канцэрт.

У наступныя дні ірландскія госці наведалі музеі і тэатры, былі прыняты ў розных міністэрствах і ведамствах, выязджалі з падарункамі ў дзіцячыя дамы Беларусі.

23 сакавіка ў Цэнтры імя Ф. Скарыны адбылася яшчэ адна прэзентацыя кнігі “Беларусь – Ірландыя” — на гэты раз з удзелам першага сакратара Пасольства Ірландыі ў Расійскай Федэрацыі і Беларусі Шэйна О’Ніла. Сустрэчу адкрыла дырэктар Цэнтра Л. Уладыкоўская-Канаплянік. Затым выступілі: укладальніца зборніка М. Міцкевіч, аўтары В. Чамярыцкі, А. Жлутка, С. Рудовіч, У. Рагойша, Л. Савік, паэт Л. Дранько-Майсюк і інш.

Да ўдзельнікаў Дзён звярнуўся з сардэчным прывітаннем былы пасол Беларусі ў Вялікабрытаніі і Ірландыі Уладзімір Шчасны.

***Міхаіл Міцкевіч**, старшыня Таварыства “Беларусь – Ірландыя”*

# ГУЧАЛА СЛОВА БЕЛЬГІЙСКАГА КЛАСІКА

Я нарадзіўся ў цяжкі дзень нястачы,
Але на вуліцы крынічнай свет я ўбачыў:
Багацця хата родная не мела,
Але была бялізна, як снег, бела...

*(Тут і далей пераклад Э. Агняцвет)*

Так напісаў аб сваім нараджэнні выдатны бельгійскі паэт Марыс Карэм. Нарадзіўся ён 12 мая 1899 г. у г. Ваўр (правінцыя Брабант). Апошні год таго стагоддзя азнаменаваўся нараджэннем Эрнеста Хэмінгуэя і Фрэдэрыка Гарсія Лоркі. Сучаснікамі Марыса Карэма былі Гіём Апалінэр, чые продкі былі родам з Беларусі, Эміль Заля, Эміль Верхарн, Марыс Метэрлінк, Рабінтранат Тагор, знакамітыя беларускія паэты — Максім Багдановіч, Янка Купала, Якуб Колас. У Бельгіі жылі таксама выдатны беларускі кампазітар Мікола Равенскі, таленавіты мастак-рэстаўратар Міхась Саўка, якому Міністэрства французскай культуры Бельгіі прысвоіла званне доктара мастацтва, кавалера ордэна Кароны і які вучыў каралеву Бельгіі маляванню.


MAURICE CARÊME

Photo Jeannine Burny

Марыс Карэм бываў у Савецкім Саюзе, прымаў удзел у Пушкінскім свяце паэзіі. Цікава, што ён ведаў пра Беларусь, ці ведаў, што паэтэса Эдзі Агняцвет перакладала яго вершы на беларускую мову? Яны былі надрукаваны ў зборніках ”Краіна Паэмія” (1962) і “З французскай і бельгійскай паэзіі” (1993). Яна ж напісала кароткае, але ўзнёслае слова пра паэта.

Сцісла перакажам біяграфію бельгійскага класіка. Быў ён настаўнікам малодшых класаў. І вершы пачаў пісаць для сваіх вучняў, чытаў іх на ўроках. Гэта былі казкі, легенды, лічылкі, калыханкі. Таму яго ведаюць дзеці Бельгіі з самага маленькага ўзросту. Першы яго зборнік ”63 ілюстрацыі для гульні ў гусей” быў выдадзены ў 1925 г., а ў 1927 г. ён атрымаў сваю першую ўзнагароду — прэмію Э. Верхарна за зборнік “Гатэль буржуа”.

М. Карэм быў энцыклапедычна адукаваным чалавекам. Ён вывучаў музыку, філасофію, асабліва падабаліся яму творы старажытных філосафаў Індыі, Кітая, Японіі. Валодаў некалькімі замежнымі мовамі.

Дабрыня, гуманізм, павага да дзіцяці, яго пачуццяў, узнёсласць вабяць чытачоў, перакладчыкаў, мастакоў і кампазітараў да творчасці Карэма. Музычныя

творы на словы паэта, а іх больш за 200, выконваліся ў самых прэстыжных канцэртных залах Еўропы. Іх спяваюць закаханыя, матулі —немаўляткам.

13 студзеня 1978 г. славуты паэт памёр. Уладамі быў арганізаваны яго музей, які стаў вядомым культурна-адукацыйным цэнтрам. Кіруе ім, а таксама Фондам Марыса Карэма прэзідэнт Жанін Бірні.

І вось Таварыства "Беларусь – Бельгія" звярнулася да нашага суайчынніка Лаўрэна Клыбіка, які жыве ў Брусэлі, з просьбай, каб ён дапамог нам знайсці матэрыялы для правядзення вечарыны, прысвечанай М. Карэму. У сваю чаргу ён звярнуўся ў музей. Неўзабаве мы атрымалі ліст ад мадам Бірні, дзе яна паведамляла, што рыхтуе нам бандэроль з кнігамі, касетай, фотаздымкамі. Падбор матэрыялаў быў зроблены з вялікай любоўю да класіка.Таму мы змаглі грунтоўна пазнаёміцца з творамі паэта, з яго жыццяпісам, убачылі, як ён выглядаў, і нават пачулі голас паэта і тую музыку, якую ён любіў.

16 сакавіка ў Доме дружбы адбыўся вечар, прысвечаны М. Карэму. Гучалі яго вершы ў беларускім перакладзе ў выкананні знакамітай актрысы Таццяны Мархель. Каментуючы верш "Рукі маёй маці", яна сказала, што была ім ўзрушана да глыбіні душы, што ёй здалося, нібы паэт напісаў пра яе маці:

Бяру я руку маёй маці
І ласкава сціскаю ў сваіх руках.
Так лампаду бяруць, каб у хаце
У начы пасвятлела па ўсіх кутках.

Вучні восьмай мінскай гімназіі чыталі вершы паэта на французскай, беларускай, рускай мовах. Некаторыя з іх яны пераклалі самі з французскай мовы на беларускую. Верш "Час скрыпак і фіялак..." быў прачытаны пад музыку ансамбля скрыпачоў.

Пра М. Карэма расказалі доктар філалагічных навук, член-карэспандэнт НАН Беларусі Уладзімір Гніламёдаў і галоўны рэдактар часопіса "Асновы мастацтва", загадчык аддзела культуралогіі Нацыянальнага інстытута адукацыі, доктар філасофскіх навук Вадзім Салееў, паэт Леанід Дранько-Майсюк. Фільм "14 хвілін аб Бельгіі" пазнаёміў прысутных з краінай Марыса Карэма. Вучні гімназіі наладзілі выстаўку малюнкаў па творах паэта.

Усім вучням, што прымалі ўдзел у вечарыне, былі падараваны на добры ўспамін кнігі беларускіх паэтаў.

***Тамара Антановіч**, старшыня Таварыства "Беларусь – Бельгія"*



## КОРАТКА ПРА ВАЖНАЕ

Сябра Міжнароднай асацыяцыі беларусістаў, удзельнік яе першага і другога кангрэсаў, рэктар Беларускага дзяржаўнага педагагічнага універсітэта імя Максіма Танка, вядомы гісторык Леанід Ціханаў выбраны прэзідэнтам Беларускай акадэміі адукацыі.

***Аксана Мілашэўская (Мінск)***

# СУПАСТАЎЛЕННЕ НЕКАТОРЫХ МОЎНЫХ АСАБЛІВАСЦЕЙ ПРОЗЫ ЯКУБА КОЛАСА І МАРГАРЭТ МІТЧЭЛ

**Аксана Мілашэўская** закончыла аспірантуру пры кафедры беларускага мовазнаўства БДПУ імя М. Танка. Выкладае беларускую мову і літаратуру ў Мінскай нацыянальнай гімназіі № 4. Даследуе праблемы сінтаксісу.

Тыпалагічнае параўнанне твораў Якуба Коласа і Маргарэт Мітчэл цікавае тым, што яны ствараліся прыкладна ў адным часавым адрэзку, абодва пісьменнікі працавалі ў рэалістычным накірунку, надавалі вялікую ўвагу ўнутранаму голасу дзейных асоб, паказваючы іх у складаных абставінах жыцця.

Паколькі беларускай і амерыканскай літаратурам быў неабходны эпічны падыход да апісання падзей жыцця, аналіз паводзін чалавека, яго адносін да гэтых падзей, іх пазнанне і вытлумачэнне, своеасаблівае развіццё ў рэалістычных творах атрымліваў, кажучы словамі рускай даследчыцы, “принцип речевой совмещенности, контаминации автора и героя, возникший и постоянно модифицирующийся в несобственно-прямой речи” (1).

Няўласна-простая мова — гэта граматычная катэгорыя, адзін са спосабаў перадачы чужой мовы, што выкарыстоўваецца для ўзнаўлення думак персанажа, стварэння вобразнай характарыстыкі героя. У сувязі са сказаным выклікаюць цікавасць далучальныя канструкцыі з няўласна-простай мовай у складаным сінтаксічным цэлым. Гэта абумоўлена тым, што любы сказ (ці то з уласна-аўтарскім паведамленнем, ці то з няўласна-простай мовай) мае “толькі адносную закончанасць і не заўсёды вычэрпвае тую думку, якую неабходна перадаць у працэсе камунікацыі” (2). Французскі лінгвіст Шарль Балі падкрэсліваў, што паведамленне лепш засвойваецца і ўспрымаецца, калі яно пададзена невялікімі часткамі (3), што, вядома ж, садзейнічае больш дакладнаму вылучэнню няўласна-простай мовы з агульнага кантэксту.

Кожная разнавіднасць далучальных сказаў аб’ядноўвае тыя канструкцыі, якія суадносяцца з канкрэтнымі сінтаксічнымі адзінкамі пэўнага ўзроўню. З членамі сказа суадносяцца канструкцыі, дзе няўласна-простая мова з’яўляецца формай слова або словазлучэннем, што інтанацыйна і пазіцыйна вычленена ў асобнае выказванне, гэта значыць, падвергнута парцэляцыі:

“Вайсковец і чырвонаармейцы, якія ўвесь час маўчалі, прыглядаліся да бандыта — нармальны гэты чалавек ці хворы? *Шчыры ці проста ашуканец і закаранелы шэльма?*” (4); “Она [Скарлет] так старалась ничем не выдать своих чувств... *Эшли женится на Мелани Гамильтон! Нет, это неправда! Близне-*

*цы что-то напутали. Или как всегда разыгрывают ее. Не может, не может Эшли любить Мелани*" (5).

У аснове парцэляцыі, як вядома, ляжыць натуральнае разгортванне гутарковай мовы, паколькі яна (гутарковая мова) фарміруецца па меры развіцця працэсу думкі, а не выступае загадзя абдуманай і гатовай формулай. Але парцэляцыя, разам з тым, — і прыём пісьмовай літаратурнай мовы, праяўленнем якой з'яўляецца аўтарская мова. Парцэляцыя ў няўласна-простай мове ў прынцыпе не адрозніваецца ад парцэляцыі ў аўтарскай мове. Зразумела, што мова персанажаў мастацкіх твораў, у тым ліку і ўжытыя ў ёй парцэляваныя канструкцыі, — творчасць іх аўтара, пісьменніка. Аднак парцэляваная няўласна-простая мова мае сваю спецыфіку, якая заключаецца ў расчляненні аўтарскага паведамлення. Акрамя таго, паводле свайго цытатнага характару яна не можа ўжо разглядацца толькі як стылістычны прыём, таму што пісьменнік імкнецца больш-менш дакладна ўзнавіць гутарковую мову. Парцэляцыя, на думку А. Скавароднікава, з'яўляецца сродкам выражэння "периферийной присоединительной связи, характерной для монологической и диалогической речи персонажей" (6). Гэта спосаб арганізацыі складаных сінтаксічных цэлых па прынцыпу далучэння, але пры той ступені завершанасці папярэдняй часткі (уласна-аўтарскага паведамлення), якое дазваляе таму, хто піша, паставіць адпаведны знак прыпынку (кропку, пытальнік, клічнік) перад далучэннем. Прывяду прыклады.

"Сцяпанавы думкі пайшлі па новай дарозе. *Прадаць, непрыменна прадаць*" (IV, 127); "Скарлетт [...] почувствовала себя миссис Эшли Уилкс, *женой Эшли!* А потом легкий холодок сомнения закрался в ее сердце. *А что, если совсем не получится так, как она задумала? Что, если Эшли не предложит ей бежать с ним?* Но она тут же прогнала прочь эту мысль" (I, 101).

У адрозненне ад далучэння парцэляцыя выводзіць інтанацыйна адчлянёную частку з няўласна-простай мовай за межы ўласна-аўтарскага паведамлення і дапамагае рэалізаваць адну сінтаксічную структуру праз два непарыўна звязаныя выказванні: уласна-аўтарскае паведамленне і няўласна-простую мову. Парцэляваная канструкцыя ў складаным сінтаксічным цэлым утвараецца са стрыжневага сказа — рэмаркі і парцэлята — далучальнага сказа з няўласна-простай мовай. Далучальных сказаў пры такой канструкцыі можа быць больш, чым адзін:

"Ён [Нявідны] прысеў на голы тапчан, азірнуўся... Тупік. *Далей ходу няма!.. Канец?..*" (VIII, 419); "Но Скарлет не проливала слез. Когда она узнала про капитуляцию, первой ее мыслью было: "Слава тебе господи!" [...] *Как гора с плеч? Не вздрагивать больше от испуга, заслышав стук копыт! Не просыпаться во мраке среди ночи, не прислушиваться, затаив дыхание, — в самом ли это деле или ей просто почудилось...*" (I, 620).

У з'яве парцэляцыі нібы зліваюцца супярэчныя адна адной пазіцыі таго, хто гаворыць, а значыць, расчляняе адзінае цэлае выказванне на часткі, і таго, хто слухае, разумее — злучае іх, узнаўляе расчлянёнае адзінства. Дзякуючы гэтаму ствараецца дадатковая магчымасць значнага і разам з тым ненагрувашчанага

пашырэння асобных членаў сказа. Парцэляцыя ў складаным сінтаксічным цэлым з няўласна-простай мовай выкарыстоўваецца, такім чынам, як спосаб арганізацыі няўласна-простага выказвання. Сродкам жа сувязі парцэляваных слоў у гэтай складанай канструкцыі з'яўляецца далучальная інтанацыя. Напрыклад, з дапамогай парцэляцыі асобных членаў сказа акцэнтуецца ўвага на кожным з іх і адначасова аблягчаецца, спрошчваецца ўся сінтаксічная канструкцыя:

"Прыхіліўшы камлюкі да сцяны, Андрэй доўга пазіраў на іх. *Хвацкія камлюкі. Важнецкія выйшлі б спіцы для колаў. А паліцы на сохі!..*" (IV, 161); "*Ах, как это унизительно — спасаться за юбками Мелани от тех, кто так ненавидит ее, кто разорвал бы ее на куски своим перешептыванием! Спасаться с помощью слепой веры Мелани — именно Мелани!* При мысли об этом по телу Скарлетт пробежал озноб" (II, 514).

Аднак, нягледзячы на такія чыста сінтаксічныя ўласцівасці і магчымасці парцэляцыі, асноўнай яе функцыяй у складаным сінтаксічным цэлым з'яўляецца экспрэсіўнае вылучэнне той ці іншай часткі чужога выказвання. З яе ўдзелам парцэляваная няўласна-простая мова набывае большую выразнасць і эмацыянальнасць.

Выкарыстанне разгледжанай канструкцыі ў творах Якуба Коласа і Маргарэт Мітчэл дазволіла абодвум пісьменнікам, розным па сваіх творчых прынцыпах, стварыць тыпалагічна параўнальны, у многім падобны свет сваіх герояў, падаць іх характары ў развіцці, зрабіць персанажаў непасрэднымі суразмоўцамі чытача.

---

(1) Гончарова Е. П. Пути лингвостилистического выражения категорий автор — персонаж в художественном тексте. Томск, 1984. С. 120.

(2) Бурак Л. І. Далучэнне ў сучаснай бедарускай мове. Мн., 1975. С. 256.

(3) Балли Ш. Французская стилистика / Пер. с фр. М., 1961. С. 296.

(4) Колас Я. Зб. тв.: У 14 т. Мн., 1975. Т. 1. С. 36. (далей у дужках указваюцца том і старонка гэтага выдання).

(5) Митчелл М. Унесенные ветром: В 2 т. Минск, 1991. Т. 1. С. 36. (далей у дужках указваюцца том і старонка гэтага выдання).

(6) Сковородников А. П. Соотношение парцелляции и присоединения // Вопр. языкознания. 1978, № 1. С. 124.

---

*Днямі ў «Беларускай хатцы» ў Мінску адбылася вечарына, прысвечаная 110-годдзю з дня нараджэння святара і беларускага паэта Казіміра Сваяка. Гісторык літаратуры Ірына Багдановіч прадэманстравала там вось гэтае запрашэнне на пражскую вечарыну. Але хто яе арганізоўваў? Падкажыце, чытачы*



CYRILOMETODĚJSKÁ LIGA STUDENTSKÁ
uctivě zve
k oslavě prvního výročí smrti běloruského básníka a unionisty
KAZIMÍRA SWAJAKA
(P. Konstantina Stepoviče).
PROGRAM:
V sobotu dne 7. května přesně o ½5. hod. odp. v řecko-katolickém chrámě sv. Kříže v Praze II., Na Příkopě
PANYCHIDA,
po ní hned o 5. hod.
SLAVNOSTNÍ SCHŮZE
v Praze II., Panská ulice č. 1, v přednáškové síni (přízemí v levo).
1. Sbor.
2. Fr. Hryškievič: Kazimír Swajak, jeho význam v unionismu (bělorusky).
3. A. Klimovič: Doslov (česky).
Prosí se o nejhojnější účast. Vstup volný.
Dr. JOS. HRONEK, předseda.
AD. KLIMOVIČ, za sekci běloruskou.

## ALBARUTHENICA SLOVACA

Апошнім часам у Славакіі пачынае ўзрастаць цікавасць да Беларусі і ўсяго беларускага, бо нарэшце пераадолены той стэрэатып, што далей за ўсходнюю славацкую мяжу ўсё ўкраінскае, а потым рускае. І хаця ад многіх выкладчыкаў славацкіх ВНУ (праўда, неславістычных спецыяльнасцей) яшчэ можна пачуць шчырае здзіўленне, што беларуская мова ў нечым адрозніваецца ад рускай, усё ж такі прагрэс відавочны. У Прэшаўскім універсітэце (Усходняя Славакія) на філасофскім факультэце ўжо трэці год чытаецца курс беларускай мовы, ва Універсітэце імя Мацея Бела ў Банскай-Быстрыцы (Сярэдняя Славакія) адкрываецца беларускае аддзяленне на перакладчыцкім факультэце ў камбінацыях беларуская мова — нямецкая мова і беларуская мова — англійская мова, на якое ўжо пададзены заявы ў колькасці, неабходнай для адкрыцця групы. У мінулым, 1999 г. прадстаўнікі Славакіі прынялі ўдзел у рабоце Летняй школы беларусістыкі ў Мінску: Любар Кралік прадстаўляў Інстытут мовазнаўства імя Людавіта Штура Славацкай акадэміі навук; Марыя Кошкава — Славістычны кабінет той жа акадэміі.

Вядуцца і навуковыя даследаванні на беларускім матэрыяле. Першая штудыя па беларускай дыялекталогіі з’явілася каля 10 год таму і належыць вядомаму славацкаму дыялектолагу Канстанціну Палкавічу. У манаграфіі “Традыцыйнае вяселле ў славян” (“Tradičá svadba u Slovanov”), якую выдаў Інстытут этналогіі Славацкай акадэміі навук у 1993 г., у шэрагу славянскіх вясельных абрадаў даволі грунтоўна разглядаюцца і беларускія. Ён таксама цікавіўся транскрыпцыяй беларускіх назваў на славацкай мове, рэцэнзаваў беларускія мовазнаўчыя выданні (1). Вялікую цікавасць у славацкіх вучоных выклікае акадэмічная серыя “Беларуская народная творчасць”, якая ўжо стала матэрыялам для новых даследаванняў — у прыватнасці, у Славістычным кабінеце Славацкай акадэміі навук пад кіраўніцтвам Яна Дорулі распачата панарамнае даследаванне славянскіх казак, для якога ў шэрагу іншых крыніц выкарыстоўваецца згаданая серыя (2). На гэтым матэрыяле аспірантка Славістычнага кабінета Катарына Жэнюхава будуе сваё дысертацыйнае даследаванне.

Агульны агляд славацкай беларусістыкі ўпершыню зрабіў дацэнт філасофскага факультэта Прэшаўскага універсітэта Ладзіслаў Бартка. Першы артыкул “Bieloruský jazyk na Filozofickej fakulte” (“Беларуская мова на філасофскім факультэце”), прысвечаны ў асноўным навукова-педагагічнай дзейнасці выкладчыкаў беларускай мовы Прэшаўскага універсітэта (перш за ўсё В. Ляшук, якая два гады таму распачала курс беларускай мовы ў Прэшаве), а таксама перспектывам славацкай беларусістыкі, быў надрукаваны ў часопісе “Slavica Slovaca”

за 1998 г. Яго трохі скарочаны варыянт у перакладзе на беларускую мову выйшаў у зборніку матэрыялаў міжнароднай канферэнцыі, якая адбылася ў Беларускім дзяржаўным універсітэце восенню 1998 г. (2).

Цікавасць да беларускай мовы ў славакаў выклікана не толькі ідэямі "славянскай узаемнасці". Нашы народы і іх мовы здаўна мелі шмат у чым падобныя гістарычныя лёсы: тут і адсутнасць дзяржаўнасці на працягу некалькіх стагоддзяў (калі беларуская і славацкая народнасці ўжо склаліся), і выкарыстанне ў якасці пісьмовых моваў на іх тэрыторыях чужых моваў: у Славакіі — лацінскай, чэшскай і часткова польскай (пазней у афіцыйным ужытку выкарыстоўваліся таксама нямецкая і венгерская), на Беларусі гэтую ролю выконвалі польская і руская мовы. Славацкая літаратурная мова вядзе адлік свайго існавання ад першай спробы яе літаратурнай кадыфікацыі, зробленай у канцы XVIII ст. Антонам Берналакам у яго "Славацкай граматыцы" (Bernolák A. Grammatica slavica. 1790) на аснове заходнеславацкіх гаворак з выкарыстаннем фанетычнага правапісу ("пішы, як чуеш"). Але "берналакаўшчына" вялікага поспеху не мела, бо надта маленькая частка славакаў карысталася гэтымі гаворкамі, а іх арэальная база была занадта шырокая. Таму канчаткова славацкая літаратурная мова была ўзаконена пазней, у 1843 г., дзякуючы намаганням Людавіта Штура і яго паплечнікаў Йозефа Гурбана і Міхала Годжы. Штураўская кадыфікацыя была зроблена на аснове сярэднеславацкіх гаворак — найвялікшага дыялектнага масіву Славакіі — і аказалася найбольш прыдатнай для ўсеславацкага выкарыстання. Яна зрабілася нарматыўнай, і ўжо праз год пасля афіцыйнага зацвярджэння ў якасці славацкай літаратурнай мовы, у 1844 г., на ёй з'явіліся першыя мастацкія творы. На літаратурнай мове, у аснове якой ляжыць "штураўшчына", славакі размаўляюць і сёння.

Новая беларуская літаратурная мова (у адрозненне ад старабеларускай) яшчэ маладзейшая і адлічвае сваё існаванне толькі з другой паловы XIX ст. Першым навуковым выданнем на ёй быў "Слоўнік беларускай мовы" Івана Насовіча (Носович И. И. Словарь белорусскаго наречия. 1870). Кадыфікацыя ж і ўнармаванне новай беларускай літаратурнай мовы адбыліся толькі ў першай палове XX ст. Таму і адносяць беларускую і славацкую мовы да так званых маладых моваў, ці літаратурных моваў позняга фарміравання, што таксама з'яўляецца сведчаннем пэўнага падабенства іх гістарычных лёсаў.

Адчуваючы такую гістарычную роднасць, славацкія вучоныя з асаблівай цеплынёй ставяцца да беларускай тэматыкі. Вядома, фундаментальных даследаванняў па беларусістыцы адразу чакаць не даводзіцца, тым больш што на сённяшні час тэмы такіх даследаванняў яшчэ мацней, чым калісьці, звязаны з крыніцамі і магчымасцямі фінансавання. А як фінансуюцца гуманітарныя праекты, здагадацца няцяжка… Аднак тое, што першыя крокі ўжо робяцца і што нашу мову хочуць сур'ёзна вывучаць не толькі прадстаўнікі беларускіх дыяспар за мяжой, — гэта несумненна і гэта дазваляе нам спадзявацца, што беларусістыка ў славянскіх краінах будзе развівацца і далей.

***Наталля Кісялёва** (Банска-Быстрыца, Славакія)*

(1) Palkovič K., Lučyc-Fedarec I. O transkripcii z bieloruštiny // Slovanska reč. 1982. Roč. 47. S. 349–352; Palkovič K. Dve bieloruské knihy o slovnej zasobe // Kultura slova. 1982. Roč. 16. S. 379–381; Palkovič K. Z bieloruskej dialektologie // Slavica Slovaca. 1987. Roč. 22. S. 293–298.

(2) Назіранні над устойлівымі зваротамі і клішэ ў беларускіх, славацкіх і іншых фальклорных тэкстах былі адлюстраваны ў дакладзе Л. Барткі на XI Міжнародным з'ездзе славістаў: Dorul'a J. Z Histórie lexikalnych slovensko-východoslovanských súvislosti a paralel // Česko-slovenská slavistika. Praha, 1983. S. 61–70.

## ВЫВУЧАЕЦЦА ЛІТОЎСКАЯ МОВА

Пачынаючы з 1999 г. у Беларускім дзяржаўным педагагічным універсітэце імя Максіма Танка пачата падрыхтоўка педагагічных кадраў па спецыяльнасці “Літоўская мова”. Група налічвае дзесяць чалавек. Нягледзячы на шэраг арганізацыйных цяжкасцей, ужо дасягнуты пэўныя поспехі. Трэба прызнаць, што патрэба ў авалоданні літоўскай мовай у Беларусі заўсёды была актуальнай. Акрамя суседства гэта тлумачыцца нашым агульным з літоўцамі гістарычным шляхам, на якім мы перажылі шмат агульных радасцей і страт. Літоўцы сапраўды нам браты па крыві. Нашымі агульнымі продкамі былі старажытныя індаеўрапейцы. Наша супольнае жыццё з літоўцамі не спынялася ніколі. Сваёй этнічнай адметнасцю ў многім мы, беларусы, абавязаны старажытным балтам, якія былі нашымі папярэднікамі на зямлі Беларусі. Агульнымі гістарычнымі каранямі і шматвяковым супольным жыццём тлумачыцца проста неймаверная ступень блізкасці, якая існуе паміж неславянскай літоўскай і славянскай беларускай мовамі. Найстаражытнейшая літоўская мова, якая ў аснове сваёй з'яўляецца праіндаеўрапейскай, дапамагае нам узнавіць найстаражытнейшыя этапы развіцця беларускай мовы.

Увядзенне новай спецыяльнасці ў педагагічным універсітэце — гэта выкананне беларускім бокам дамоўленасці, дасягнутай у час беларуска-літоўскага “круглага стала”, што адбыўся ў чэрвені 1998 г. у Літоўскім культурным цэнтры ў вёсцы Рымдзюны Астравецкага раёна (асноўным яго арганізатарам выступіў Цэнтр імя Ф. Скарыны). У рабоце “круглага стала” прынялі ўдзел навукоўцы, педагогі, прадстаўнікі міністэрстваў адукацыі. Асноўным пытаннем парадку дня была арганізацыя беларускамоўнай адукацыі ў Літве і літоўскамоўнай у Беларусі. Тады ж і было вырашана адкрыць аддзяленне літоўскай мовы на факультэце беларускай філалогіі і культуры БДПУ.

І вось студэнты новага аддзялення ў верасні месяцы мінулага года селі за парты, а навучаць іх новай спецыяльнасці выпала мне, удзельніку “круглага стала” ў Рымдзюнах. Навучанне разлічана на пяць год. Натуральна, усё давялося пачынаць на голым месцы, паколькі вывучэнне літоўскай мовы беларусамі ў Беларусі і ў беларускай ВНУ — рэч беспрэцэдэнтная. Адна справа — выкладаць літоўскую мову беларусам у Літве, дзе існуе літоўскамоўнае асярод-

дзе, дзе студэнты маюць магчымасць чуць жывую літоўскую мову на кожным кроку, што асабліва важна, калі ўлічыць цяжкасць літоўскага вымаўлення для нелітоўцаў. І зусім іншая — у Беларусі, дзе літоўскую гаворку можна пачуць толькі выпадкова ад прыезджых літоўцаў. Давялося самастойна складаць праграму, шукаць дапаможнікі. Добра, што я ў свой час заказваў праз “Кнігу–поштай” усё больш-менш значнае па літоўскай культуры і мове, што выходзіла ў выдавецтвах Літвы, а літоўскія кнігарні, трэба аддаць ім належнае, мае заказы старанна выконвалі. У выніку цяпер я маю кнігазбор, у прынцыпе дастатковы, каб падрыхтавацца да заняткаў.

Падручнікаў жа ў дастатковай колькасці для студэнтаў, на жаль, няма. Такі падручнік, які адпавядаў бы нашым патрэбам, можам стварыць толькі мы. Але ён складаецца мной у практыцы выкладання і можа ў гатовым выглядзе з’явіцца толькі ў будучым. Паколькі, як ужо гаварылася, засваенне літоўскага вымаўлення ўяўляе для беларусаў значную цяжкасць, нам неабходны і аўдыякасеты з запісамі жывога літоўскага вымаўлення. Сёе-тое ўдаецца здабыць самім студэнтам (самавучыцелі Ю. Александравічуса і І. Чэкманене, В. Чэкмонаса, аўдыякасета “Kalbame lietuviškai” Я. Янавічэне і Ж. Мурашкене), аднак гэтага, вядома, недастаткова. Акрамя вучэбных дапаможнікаў па мове патрэбны зборнікі практыкаванняў, хрэстаматыі па літоўскай літаратуры, літаратура па літоўскай культуры — святах, звычаях, абрадах, мастацтву. Тады, маючы іх, можна зрабіць навучальны працэс цікавым і паўнацэнным. У бібліятэках жа такая літаратура, як і наогул літаратура на літоўскай мове, прадстаўлена слаба, відаць, з-за моўнага бар’ера, — няшмат у нас чытачоў, якія без перакладу маглі б чытаць гэтую літаратуру, вось і асцерагаюцца бібліятэкі займаць такімі кнігамі свае плошчы. Трэба, нарэшце, шукаць паразумення з літоўскім бокам аб арганізацыі ў будучым на нейкіх ільготных пачатках (не ў кожнага студэнта знойдзецца 50 долараў на набыццё візы) моўнай практыкі ў Літве, як гэта робіцца (ці рабілася) у Лінгвістычным універсітэце. Бо вывучэнне літоўскай мовы — гэта натуральнае вывучэнне замежнай мовы, і ажыццяўляцца яно павінна належным чынам.

Трэба сказаць, што педуніверсітэт прымаў захады па вырашэнню згаданай праблемы. Яшчэ ў верасні месяцы загадчык кафедры беларускага мовазнаўства, пры якой і арганізавана выкладанне дысцыпліны, П. Міхайлаў звярнуўся з просьбай аб дапамозе ў Літоўскае пасольства ў Мінску. Адказ, хоць і не хутка, прыйшоў. У лісце з пасольства прапанаваны спіс літаратуры, з якога мы павінны выбраць патрэбнае нам. Гэта абнадзейвае, хоць, відаць, цалкам нашых патрэб не вырашыць. Трэба шукаць паразумення з літоўцамі на асобным узроўні праз нашых навукоўцаў, якія даўно і стала кантактуюць са сваімі вільнюскімі калегамі. Нарэшце, трэба арганізаваць выкладанне і іншых дысцыплін літоўскага цыкла — літоўскай дыялекталогіі, літаратуры, гісторыі. Асноўныя звесткі па гэтых раздзелах даюцца студэнтам праз вучэбныя тэксты адпаведнай тэматыкі (студэнтам прапаноўваліся для завучвання на памяць вер-

шы С. Нярыс, Э. Межэлайціса, чытанне “па-літоўску” карцін М. Чурлёніса і г. д.). Такім чынам, толькі пры ўмове вырашэння згаданых арганізацыйных праблем можна спадзявацца на атрыманне студэнтамі паўнацэннай адукацыі па новай спецыяльнасці.

***Уладзімір Свяжынскі**, выкладчык літоўскай мовы БДПУ імя Максіма Танка*



## КОРАТКА ПРА ВАЖНАЕ

~ ~

Пасольства Італіі ў Беларусі арганізавала ў Беларускім інстытуце праблем культуры выстаўку мастачкі Францыазы Сендрыер. Некаторыя яе пейзажы намаляваны ў Беларусі.

~ ~

У Цэнтры імя Ф. Скарыны прайшла сустрэча з загадчыцай кафедры беларускай культуры Універсітэта ў Беластоку, сябрам Міжнароднай асацыяцыі беларусістаў праф. Эльжбетай Смулковай. На сустрэчы прысутнічаў Пасол Польшчы ў Беларусі Мар’юш Машкевіч.

~ ~

270-годдзю з дня нараджэння апошняга канцлера Вялікага Княства Літоўскага Іаахіма Літавора Храптовіча была прысвечана выстаўка твораў сяброў Беларускай акадэміі выяўленчага мастацтва “Час белых ценяў”.

~ ~

На Кніжнай выстаўцы ў Мінску выдавецтва “Пейто” арганізавала прэзентацыю кнігі “Краязнаўства” вядомага беларускага і рускага гісторыка Міколы Улашчыка.

~ ~

Адбылося арганізацыйнае пасяджэнне Археаграфічнай камісіі Дзяржкамархіва. З дакладам на ім выступіў старшыня Расціслаў Платонаў. Камісія рыхтуе да выдання першы том “Беларускага археаграфічнага штогодніка”, у рэдкалегію якога ўвойдуць замежныя вучоныя.



*Сябры Севастопальскага таварыства беларусаў «Бацькаўшчына» (Украіна) адзначаюць гадавіну абвяшчэння БНР*

## СТАРОНКІ БУДУЧАГА ЭНЦЫКЛАПЕДЫЧНАГА ДАВЕДНІКА

### БУЧЭЛЬ ТАЦЦЯНА



***Бучэль Таццяна Фамінічна*** *(9.07.1955, в. Германавічы Шаркоўшчынскага р-на Віцебскай вобл.), беларускі грамадскі дзеяч у Латвіі.*

Пасля заканчэння сярэдняй школы Т. Бучэль вучылася ў Мінску — на факультэце нямецкай і англійскай моваў Педагагічнага інстытута замежных моваў, які закончыла ў 1977 г. Два гады працавала настаўніцай замежных моваў у Беларусі. Затым, пераехаўшы ў Латвію, выкладала англійскую мову ў Даўгаўпілскім педагагічным інстытуце. З 1980 г. працуе загадчыцай Калкунскай бібліятэкі Даўгаўпілскага р-на. У 1999 г. паспяхова абараніла магістэрскую працу на тэму "Фразеалагізмы з міфалагічнымі кампанентамі ў беларускай і рускай мовах" у Даўгаўпілскім педагагічным універсітэце.

Наша суайчынніца з'яўляецца адным з арганізатараў Беларускага культурна-асветніцкага таварыства "Уздым" (г. Даўгаўпілс), актыўна ўдзельнічае ў яго дзейнасці, уваходзіла ў Раду таварыства, а ў 1998 г. была абрана старшынёй "Уздыма". Т. Бучэль вядзе заняткі ў беларускай нядзельнай школе, якая дзейнічае ў Даўгаўпілсе пры таварыстве, знаёміць дзяцей з беларускай мовай і літаратурай, гісторыяй і культурай Беларусі, арганізуе правядзенне беларускіх народных святаў, праводзіць конкурсы на лепшае сачыненне на беларускай мове, экскурсіі па гарадах Беларусі, Літвы і Латвіі. З'яўляецца выкладчыкам спецкурса па беларускай мове ў Даўгаўпілскім педагагічным універсітэце. Друкуецца ў мясцовай прэсе.

***Станіслаў Валодзька*** *(Даўгаўпілс, Латвія)*

# ЖЫБРЫК НІНА



***Жыбрык*** *(дзявоч. Умецкая)* ***Ніна Іосіфаўна*** *(21.03.1933, хутар бліз в. Малыя Навасёлкі Дзяржынскага р-на Мінскай вобл.) паэтэса, член Саюза пісьменнікаў СССР (1983), грамадскі дзеяч.*

Н. Жыбрык нарадзілася ў сялянскай сям'і. Ад бацькі атрымала ў спадчыну творчую здольнасць мастака, глыбокую цікавасць да прыроды, ад маці — сялянскую працавітасць і лагоднасць, любоў да кніг. Бацькі былі першымі выкладчыкамі, а поле, лес, луг, сярод якіх яна расла, — першымі “універсітэтамі”. Вучыцца ў школе пачала з другога класа ў 1945 г., калі адчыніла дзверы сямігадовая школа ў в. Вялікія Навасёлкі. Закончыўшы Дзяржынскую дзесяцігодку, паступіла на біялагічны факультэт БДУ. У 1956 г. вучобу давялося перапыніць. З мужам, які быў накіраваны “на ўздым народнай гаспадаркі”, пераехала на сталае жыццё у Марыйскую АССР. Спыніліся ў г. Волжску, дзе працавала лабарантам на лесазаводзе “Заря”, а пасля заканчэння цэлюлозна-папяровага тэхнікума — тэхнолагам Марыйскага філіяла Ленінградскага навукова-даследчага інстытута паперы. З 1972 да 1978 г. была карэктарам рабочай газеты “Волжская правда”, затым літаратурным супрацоўнікам завадской шматтыражкі “Марийский бумажник”.

У 1978 г. сям'я пераехала ў невялікі пасёлак Мачалішчы. Яго з усіх бакоў абступаў лес, акружала нечапаная прырода. Яна аказалася ў той стыхіі, жыватворным асяроддзі, якое нагадвала родныя мясціны, давала сілы для ажыццяўлення новых творчых задум. На новым месцы працавала мастаком-надомніцай вытворчага аб'яднання “Пёлек” (“Падарунак”), бібліятэкарам, займалася грамадскай дзейнасцю, жывапісам, папаўняла экспанатамі хатні музей. Цяпер знаходзіцца на пенсіі.

Пісаць вершы Н. Жыбрык пачала ў чатырнаццаць гадоў. Паперы не хапала, і ў ход ішло ўсё, што было пад рукамі: мешкавіна, старыя шпалеры і нават запацелыя шыбіны вакон. Паэтычны дэбют адбыўся ў 1956 г., калі раённая газета “Ленинская правда” змясціла верш “Весна пришла” (на рускай мове). У Рэспубліцы Марый Эл вершы перыядычна змяшчаліся ў газетах “Волжская правда”, “Молодой коммунист”, “Ончыко” (“Уперад”), “Передовик”; выйшлі зборнікі “Будем знакомы” (1961), “К вам идут” (1965), “Радуга” (1967), “Откровение” (1970), “Теплые ладони подорожника” (1975), “Танец сыроежек” (1978), у якіх значнае месца займаюць беларускія матывы. Вершы Н. Жыбрык

пра вечныя каштоўнасці — каханне, вернасць, дружбу, прыгажосць прыроды, нашу суровую надзённасць — прыцягваюць увагу як крытыкаў літаратуры, так і аматараў паэзіі. Член Саюза пісьменнікаў СССР (1983).

Н. Жыбрык вядома ў Рэспубліцы Марый Эл і за яе межамі як народная мастачка. З адыходаў драўніны, адмысловых карэнняў яна стварыла хатні музей высокамастацкіх вырабаў, сярод якіх “Звон Хатыні”, “Боль Чарнобыля”, “Паэт”, “Дзеці” і інш. Значная частка калекцыі неаднаразова экспанавалася на персанальных выстаўках у краязнаўчым музеі г. Йашкар-Алы, Звянігаўскім раённым доме народнага мастацтва і двойчы ў Маскве. Частка калекцыі падаравана Карабелякскаму дзіцячаму дому. Сваё майстэрства яна ахвотна перадае не толькі вучням мясцовай сярэдняй школы, але і настаўнікам вытворчай працы розных школ рэспублікі. Дом Н. Жыбрык з’яўляецца творчай майстэрняй, якая адкрыта для ўсіх жадаючых.

Свае living рознабаковыя здольнасці Н. Жыбрык паспяхова спалучае з фітатэрапіяй. З ранняй вясны да позняй восені яна збірае лекавыя травы, вырошчвае іх на прысядзібным участку. Ёю сабрана і складзена больш за дзве тысячы рэцэптаў народнай медыцыны, якія паспяхова выкарыстоўваюцца ў штодзённай практыцы. Зборнік гэтых рэцэптаў можа прынесці вялікую карысць людзям, калі будуць знойдзены сродкі на яго выданне.

***Вера Новік*** *(Йашкар-Ала, Марый Эл)*

## ПРАЛАТ ВАЛЯНЦІН

***Пралат Валянцін Міхайлавіч*** *(16.01.1958, в. Дровашы Маладзечанскага р-на Мінскай вобл.), беларускі спявак (тэнар).*



В. Пралат скончыў Маладзечанскае музыкальнае вучылішча па класу вакала (1982), Ленінградскую кансерваторыю (1988). Як спявак дэбютаваў ў партыі Ленскага (“Яўгеній Анегін” П. Чайкоўскага) у опернай студыі Ленінградскай кансерваторыі (1985). У 1988 г. — саліст Чэлябінскага, у 1989–1992 гг. — Екацерынбургскага тэатраў оперы і балета. Выступіў у ролі Рудольфа (“Багема” Дж. Пучыні) на сцэне Чэлябінскага тэатра. З 1992 г. — саліст Пражскага нацыянальнага опернага тэатра. Галоўныя ролі ў операх класічнага рэпертуару: Герцаг

(“Рыгалета” Дж. Вердзі), Альфрэд (“Травіята” Дж. Вердзі), Хазэ (“Кармэн” Ж. Бізэ), Вадэмон (“Іаланта” П. Чайкоўскага) і інш. Выступаў на сцэнах вядучых оперных тэатраў свету — у Парыжы, Вене, Берліне, Дубліне, Тэль-Авіве, Таронта, Токіо, Жэневе і інш.

***Яўген Ігнатовіч*** *(Мінск)*

## СУЛКОЎСКІ МІКАЛАЙ



***Сулкоўкі Мікалай Пятровіч*** *(12.11.1961, в. Колкі Столінскага р-на Брэсцкай вобл.), прадпрымальнік, беларускі грамадска-культурны дзеяч.*

М. Сулкоўскі нарадзіўся ў беларускай сялянскай сям’і. У 1962 г. яна выехала ў Кустанайскую вобл. (Казахстан). Пасля заканчэння прафтэхвучылішча М. Сулкоўскі працаваў механізатарам у Казахстане. Служыў у чыгуначных войсках у Прымор’і (1981–1983). У час вайсковай службы быў узнагароджаны ганаровымі граматамі Прыморскага краю, занесены ў Ганаровую кнігу часці. З 1983 г. жыве ў Новасібірску. Закончыў Новасібірскі інстытут воднага транспарту. Стварыў вытворчую гандлёвую фірму “БелТранссіб”. Праводзіць арганізацыйную работу па стварэнню Беларускага гандлёвага дому ў Новасібірску для пашырэння беларускай прадукцыі ў рэгіёнах Сібіры.

М. Сулкоўскі прымае актыўны ўдзел у грамадска-культурным жыцці беларускай дыяспары ў Новасібірску, прапагандуе ідэі захавання беларускай культуры ў Сібіры. Быў адным з ініцыятараў стварэння Рады прадпрымальнікаў беларускага замежжа (1993), мецэнатам праграмы Згуртавання беларусаў свету “Бацькаўшчына” па стварэнню крыжа, падобнага да крыжа Ефрасінні Полацкай, арганізатарам сустрэчы беларусаў Сібіры ў Новасібірску (1995). Многа зрабіў для фінансавага забеспячэння дзейнасці Новасібірскага аб’яднання “Беларусы Сібіры”, старшынёй якога ён выбраны ў 1999 г. З’яўляецца намеснікам прэзідэнта нацыянальна-культурнай аўтаноміі беларусаў Новасібірска і Новасібірскай вобл. Быў удзельнікам З’езда беларусаў бліжняга замежжа, І і ІІ з’ездаў беларусаў свету.

Узнагароджаны Ганаровай граматай ЗБС “Бацькаўшчына” (1997). Жыве ў Новасібірску.

***Уладзімір Галуза*** *(Новасібірск, Расія)*

## БЕЛАРУСКІЯ РЭЛІГІЙНЫЯ ДЗЕЯЧЫ XX СТАГОДДЗЯ: ЖЫЦЦЯПІСЫ. МАРТЫРАЛОГІЯ. УСПАМІНЫ / АЎТАР-УКЛАДАЛЬНІК Ю. ГАРБІНСКІ. МІНСК; МЮНХЭН, 1999. 752 с.




У канцы 1999 г. выдавецкае прадпрыемства “Беларускі кнігазбор” выдала кнігу “Беларускія рэлігійныя дзеячы XX стагоддзя: Жыццяпісы. Мартыралогія. Успаміны”. Гэтая кніга ў сціслай форме, а таксама ў выглядзе архіўных дакументаў, вытрымак з мала распаўсюджаных, амаль невядомых чытачу публікацый распавядае пра жыццё, рэлігійна-царкоўную дзейнасць і лёс удзельнікаў беларускага хрысціянскага руху XX ст. Аўтарам і ўкладальнікам змешчаных матэрыялаў з’яўляецца Ю. Гарбінскі.

Патрэба ў такім выданні адчувалася ў Беларусі вельмі даўно. Беларускі хрысціянскі рух налічвае не адно стагоддзе, але пра большую частку яго дзеячаў першай паловы XX ст. — святароў, удзельнікаў рэлігійна-царкоўнага руху, свецкіх рэлігійна-грамадскіх дзеячаў — мы ведаем яшчэ зусім мала. Складаныя лёсы гэтых людзей, часам цяжкім, супярэчлівым было іх жыццё, для многіх пакутніцкім быў яго канец, ад некаторых да нашага часу засталіся толькі прозвішчы, не напоўненыя канкрэтна-гістарычным сэнсам — падзеямі, датамі, геаграфічнымі назвамі і г. д. Пэўным часам з’яўляліся напрацоўкі пра дзеячаў беларускага хрысціянскага руху, значную ўвагу надавалі гэтаму пытанню беларусы замежжа. У Беларусі шэраг цікавых публікацый, прысвечаных асобным прадстаўнікам беларускага рэлігійна-царкоўнага жыцця XX ст. — католікам, уніятам, праваслаўным, пратэстантам, — з’явіўся ў канцы 1980-х – пачатку 1990-х гг. Цікавасць да тэмы праяўлялі як прадстаўнікі розных канфесій і звязаных з імі рэлігійна-грамадскіх рухаў, так і навукоўцы — гісторыкі, філосафы, філолагі. Першапраходцамі ў гэтым накірунку можна лічыць Нацыянальны навукова-асветны цэнтр імя Ф. Скарыны і Інстытут гісторыі Нацыянальнай акадэміі навук Беларусі, якія ўпершыню паставілі вывучэнне гэтага складанага пытання на трывалую навуковую базу.

У прадмове да выдання аўтар-укладальнік разважае пра набыткі беларускага хрысціянскага руху XX ст., аналізуе гістарыяграфію пытання, якая, дарэчы, у пераважнай большасці заходнебеларуская і эмігранцкая, гаворыць пра канфесійны перыядычны друк. На думку ўкладальніка, асноўная мэта выдання — даць чытачу і даследчыку па магчымасці поўную і аб'ектыўную інфармацыю пра ўдзельнікаў беларускага хрысціянскага руху XX ст., паказаць іх жыццёвы шлях ва ўсёй яго складанасці, таму што без вырашэння гэтай задачы, без назапашвання фактычнага матэрыялу немагчыма комплекснае вывучэнне гісторыі беларускага хрысціянскага руху ў цэлым. Пры падрыхтоўцы кнігі ўлічваўся вопыт навукова-канфесійных выданняў, якія за апошнія 30 гадоў выйшлі ў Германіі, Польшчы, Латвіі. Храналагічна даведнік ахоплівае перыяд ад пачатку XX ст. да 1998 г., калі беларускае нацыянальна-рэлігійнае жыццё зараджалася ў рамках Расійскай імперыі, развівалася пасля Рыжскага мірнага дагавора 1921 г. у межах Заходняй і Усходняй Беларусі і ў эміграцыі, а пасля распаду СССР — на постсавецкай прасторы.

Па зместу кніга складаецца з трох частак. Першая частка змяшчае біяграфіі 182 удзельнікаў беларускага хрысціянскага руху XX ст. — святароў і свецкіх дзеячаў праваслаўнага, каталіцкага і пратэстанцкага веравызнанняў. У ліку іх такія вядомыя постаці, як Ф. Абрантовіч, В. Гадлеўскі, С. Глякоўскі, Я. Дашута, А. Коўш, Ю. Матулевіч, А. Неманцэвіч, Э. Роп, А. Станкевіч, А. Цікота, асноўная дзейнасць якіх прыпадае на 1920-я – 1930-я гг. Шырока прадстаўлены ў выданні рэлігійныя дзеячы беларускага замежжа, у ліку якіх католікі і уніяты Л. Гарошка, М. Маскалік, А. Надсон, Р. Тамушанскі, П. Татарыновіч, У. Тарасевіч, Ч. Сіповіч, Ф. Чарняўскі і інш.; пратэстанты Я. Пануцэвіч, Я. Пятроўскі, Ю. Рапэцкі, Т. Сайка; праваслаўныя — епіскап Беларускай аўтакефальнай праваслаўнай царквы ў замежжы Андрэй, Васіль, Ізяслаў, Мікалай, Сяргей, святары В. Войтанка, С. Войтанка, Ф. Данілюк, С. Коўш, М. Лапіцкі, А. Смаршчок і інш. Падаюцца біяграфіі свецкіх дзеячаў, якія прыкладалі шмат намаганняў для развіцця беларускага нацыянальна-рэлігійнага руху, у ліку якіх Д. Аніська, В. Багдановіч, Ф. Вернікоўскі, Ю. Весялкоўскі, Л. Дубейкаўскі, К. Кіслы, М. Красінскі, Г. Леўчык, М. Міцкевіч, Я. Пазняк, Г. Пікарда, М. Равенскі, М. Радзівіл, А. Стаповіч, Ю. Стукаліч, М. Шчаглоў-Кулікові, Б. Эпімах-Шыпіла.

Пэўнае месца ў даведніку займаюць сучасныя рэлігійныя дзеячы — такія, як У. Завальнюк, Г. Латушка, У. Чарняўскі, М. Матрунчык, Г. Сасна, С. Жалезняковіч.

Адметнасцю выдання з'яўляецца тое, што ў ім даюцца сціслыя звесткі і пра тых беларускіх рэлігійных дзеячаў, біяграфіі якіх не дайшлі да нашага часу, пра якіх зараз вядома амаль толькі тое, што такія людзі былі на белым свеце. Гэта Я. Бараноўскі, У. Біруля, А. Бычкоўскі, Л. Голад, У. Голасаў, А. Кіркевіч, Д. Малец, М. Навіцкі, К. Рыбалтоўскі і інш.

Складаным быў лёс большай часткі гэтых людзей. Адны былі закатаваны фашыстамі. Гэта В. Гадлеўскі, С. Глякоўскі, Ю. Кашыра, А. Коўш, І. Ляўковіч,

А. Ляшкевіч, Д. Малец, А. Неманцэвіч, Л. Хведзька. Іншыя былі рэпрэсаваны савецкай уладай. У ліку іх Ф. Абрантовіч, В. Ачапоўскі, В. Багдановіч, Я. Бараноўскі, Я. Белагаловы, Я. Вярсоцкі, У. Голасаў, І. Жаўняровіч, А. Кіркевіч, М. Красінскі, С. Кульчыцкі, А. Лупіновіч, М. Навіцкі, Д. Паўскі, А. Пучкар-Хмялеўскі, Я. Пяткевіч, К. Рыбалтоўскі, А. Сак, А. Станкевіч, У. Тэраўскі, Філарэт (Ф. Раменскі), Філіп (П. Марозаў), П. Хоміч, А. Цікота. Гэты пералік гаворыць сам за сябе. Атэістычная савецкая ўлада не шанавала царкву і рэлігійных дзеячаў.

Варта падкрэсліць, што амаль да кожнай персаналіі дадаецца фотаздымак. Частка з гэтых фотаздымкаў уводзіцца ў шырокі ўжытак упершыню, і знайсці іх, у многіх выпадках, было вельмі і вельмі складана.

Другая частка кнігі ўключае ўспаміны, публікацыі, нарысы, эсэ розных людзей пра беларускіх рэлігійных дзеячаў XX ст. У ліку іх успаміны Ч. Сіповіча пра Ф. Абрантовіча, Я. Германовіча, Л. Гарошку, А. Надсона, Я. Дашуту, Ю. Стукаліча, П. Татарыновіча, Ф. Чарняўскага; успаміны Я. Германовіча пра В. Аношку, А. Астрамовіча, Я. Дашуту, К. Стаповіча, А. Цікоту, З. Якуця; Л. Гарошкі — пра А. Неманцэвіча, А. Станкевіча; а таксама ўспаміны В. Жылінскага пра Ф. Абрантовіча, П. Дрыгоніча і П. Дрыгвіча пра С. Глагоўскага, М. Міцкевіча пра Ф. Данілюка, І. Касяка пра М. Лапіцкага, асабістая аўтабіяграфія Д. Аніські, публікацыя Д. Гарошкі аб беларускім каталіцкім руху пачатку XX ст. Гэтыя матэрыялы ў пераважнай большасці з'яўляюцца перадрукам з беларускіх грамадскіх, рэлігійна-царкоўных выданняў Заходняй Беларусі і ўвогуле беларускага замежжа — такіх, як "Божым шляхам", "Царкоўны сьветач", "Бацькаўшчына", "Беларус", "Źnič", "Biełarus", "Krynica" і інш., і якія ці вельмі мала, ці амаль невядомы шырокаму чытачу.

Вялікую цікавасць для даследчыкаў уяўляе сабой трэцяя частка выдання, у якую ўваходзяць архіўныя крыніцы, рупліва сабраныя ў архівах Мінска, Санкт-Пецярбурга, Рыгі, Вільнюса, Варшавы. Архівы Мінска прадстаўлены матэрыяламі Беларускага дзяржаўнага архіва-музея літаратуры і мастацтва, архіва Камітэта дзяржаўнай бяспекі Рэспублікі Беларусь, Нацыянальнага архіва Рэспублікі Беларусь і некаторымі іншымі. У ліку гэтых дакументаў пасведчанні, метрычныя лісты, службовыя і дакладныя запіскі, атэстаты аб атрыманні адукацыі, прашэнні, старонкі з фармулярных спісаў, спісы выхаванцаў рэлігійных навучальных устаноў, ведамасці паспяховасці студэнтаў — 18 унікальных дакументаў, якія датычацца лёсу беларускіх хрысціянскіх дзеячаў.

Грунтоўнае пасляслоўе да выдання "Пакутнікі за веру і Бацькаўшчыну", аўтарам якога з'яўляецца У. Конан, падкрэслівае важнасць выхаду кнігі "Беларускія рэлігійныя дзеячы XX стагоддзя" для вывучэння гісторыка-культурнай спадчыны Беларусі, для вяртання хрысціянскай царквы ў кантэкст гісторыі і культурна-нацыянальнай традыцыі беларусаў. Пасля кароткага агляду беларускага хрысціянскага руху канца XIX – пачатку XX ст. і яго адлюстравання ў навуковай і навукова-папулярнай літаратуры Беларусі і замежжа У. Конан яшчэ

раз падкрэслівае, якую добрую справу здзейсніў Ю. Гарбінскі, які сам бачыць у кнізе пачатак больш грунтоўных універсальных калектыўных выданняў, прысвечаных беларускаму хрысціянскаму руху XX ст., тым больш што многія накірункі гэтай тэмы патрабуюць сваёй далейшай дадалёвай распрацоўкі.

У канцы кнігі змешчаны імянны паказальнік, спіс асноўных скарачэнняў.

Застаецца толькі шкадаваць, што такое цікавае ў навуковым і пазнавальным сэнсе выданне надрукавана невялікім тыражом.

***Ларыса Языковіч**, кандыдат гістарычных навук*

*Ад рэдакцыі.* Кніга Ю. Гарбінскага выклікала неадназначную, супярэчлівую рэакцыю сярод чытачоў розных краін. Таму мы прадаставім месца і рэцэнзентам, якія прытрымліваюцца іншых пазіцый.

## ВЫЯЎЛЕННЕ, СУМЕСНАЕ ВЫКАРЫСТАННЕ І ВЯРТАННЕ АРХІЎНЫХ, БІБЛІЯТЭЧНЫХ І МУЗЕЙНЫХ КАШТОЎНАСЦЕЙ, ЯКІЯ ЗАХОЎВАЮЦЦА Ў ЗАМЕЖНЫХ КРАІНАХ. (ВЯРТАННЕ–6). Мн., 1999. 372 с.

Нават школьнік ведае, што “ад прадзедаў спакон вякоў нам засталася спадчына”. Але не кожны дарослы адкажа, што яна сабой уяўляе, дзе знаходзіцца, што з ёй рабіць і навошта яна нам патрэбна. І гэта вельмі сумна. Сумна, што мы не ведаем, куды вывозіліся нашы каштоўнасці. Сумна, што толькі навукоўцы разумеюць неабходнасць іх вяртання. Сумна, што і сёння ў нашай краіне няма такой структуры, якая на дзяржаўным узроўні займалася б гэтай праблемай.

Між тым ў Беларусі ўжо ёсць вопыт вяртання культурных каштоўнасцей. Гэтае пытанне ўзнімалася ў 1924 г. на Першай Усебеларускай канферэнцыі архівістаў, у 1926 г. — на І з’ездзе даследчыкаў беларускай археалогіі і археаграфіі. Таму тая работа, якую ажыццяўляюць сёння Беларускі фонд культуры і Нацыянальны навукова-асветны цэнтр імя Ф. Скарыны, з’яўляецца лагічным працягам ранейшай справы. Ужо з 1992 г. яны выдаюць зборнікі серыі “Вяртанне”. А тое, што часам не стае дзяржаўнай зацікаўленасці, робіць серыю яшчэ больш каштоўнай.

У канцы мінулага года выйшаў шосты зборнік серыі “Вяртанне”. Па сваёй структуры ён некалькі адрозніваецца ад папярэдніх. Не, сэнс ды мэты тыя самыя — гэта бачна нават з назвы выдання. Але змяніўся прынцып падачы матэрыялаў. Раней яны групаваліся ў залежнасці ад таго, да якіх збораў яны належалі — бібліятэчных, музейных або архіўных. У новым зборніку яны размеркаваны (і, на мой погляд, гэта больш зручна для выкарыстання) па геаграфічнаму прынцыпу, г. зн. па краінах, дзе знаходзяцца нашы культурныя каштоўнасці, а гэта Германія, Літва, Польшча, Расія, Украіна, Францыя. Як

бачым, краіны ў зборніку падаюцца ў алфавітным парадку, што не прыніжае гонару ніводнай з іх. Вельмі зручна, што ў зборніку з'явіліся геаграфічны і імянны паказальнікі. Зборнік адкрываецца працамі па тэарэтычных і агульных пытаннях. У метадалагічным плане вельмі каштоўнае даследаванне М. Шумейкі, супрацоўніка Беларускага навукова-даследчага інстытута дакументазнаўства і архіўнай справы. Яно прысвечана прынцыпам пошуку і адбору культурных каштоўнасцей. Тут акрэсліваюцца навуковыя межы рэстытуцыі. М. Шумейка ўзнімае праблемы сістэматызацыі звестак, стварэння электроннай базы дадзеных, прапануе структуру апісання электроннага архіўнага фонду. Пагаджаемся з аўтарам: стварэнне электроннай базы дадзеных у сучасных умовах неабходна, бо выяўленых каштоўнасцей шмат і яны патрабуюць сістэматызацыі.




Затым друкуюцца пералікі страт твораў дэкаратыўна-прыкладнога мастацтва і цудатворных абразоў, падрыхтаваныя М. Яніцкай. Працы такога роду вельмі карысныя, бо не толькі дапамагаюць вызначыць краіну прыналежнасці, але і акрэсліваюць памеры нашых страт.

Раздзел "Германія" пачынаецца працай У. Адамушкі. Ён дае цікавую інфармацыю пра ўлік грамадзян, у тым ліку і з Беларусі, вывезеных на прымусовыя работы ў час Другой сусветнай вайны. Гэтая інфармацыя можа аказацца карыснай нават простым грамадзянам — каб ведаць, куды звяртацца за даведачнай дакументацыяй. Асабліва гэта актуальна ў сувязі з прыняццем Закона аб пенсійным забеспячэнні.

Асноўны змест кнігі складаюць даследаванні аб выяўленых беларускіх каштоўнасцях у розных краінах. У Германіі знойдзены дакументы па гісторыі Беларусі і памежных тэрыторый кёнігсбергскага архіва XIII–XIV стст. на лацінскай мове, а таксама дакументы аб лёсе беларускіх збораў, перамешчаных ў Баварыю і вернутых у Расійскую Федэрацыю. У Літве — матэрыялы Мінскай кадэнцыі Галоўнага трыбунала ВКЛ; звесткі пра мастакоў-беларусаў; архіўныя матэрыялы Віленскага беларускага музея імя І. Луцкевіча; дакументы па гісторыі БНР; крыніцы па гісторыі цэркваў. У Польшчы — дакументы пра савецка-польскую вайну 1919–1920 гг.; з архіва Грамадзянскага ўпраўлення Усходнімі землямі пры Галоўнакамандуючым польскай арміяй; справы Літоўска-Беларускага дэпартамента пры Міністэрстве замежных спраў Польшчы, дакументы савецкіх партыйных органаў Беларусі 1917–1921 гг.; крыніцы па гісторыі беларускага нацыянальнага руху да 1939 г.; дакументы па гісторыі кармеліцкіх

кляштараў. А. Мальдзіс апісвае крыніцы, якія былі выяўлены ім у час работы ў розных архівах Польшчы. У Расіі знаходзяцца дакументы па гісторыі беларускага мастацтва, літаратуры, фальклору (А. Каўка); перамешчаныя кніжныя зборы Радзівілаў і Сапегаў (М. Нікалаеў), партрэты з сядзібы Нямцэвічаў у Скоках на Брэстчыне (В. Пуцко) і інш. На Украіне — рукапісы з бібліятэкі Храптовічаў, дакументы па гісторыі базыльянскіх манастыроў, лісты Ф. Багушэвіча, З. Глогера, А. Кіркора, С. Манюшкі да Я. Карловіча; матэрыялы па гісторыі роду Тышкевічаў. У Францыі — дакументы, якія сведчаць пра адносіны паміж гэтай краінай і ВКЛ і датуюцца XVI–XVIII стст.

Безумоўна, самай цікавай сярод даследаванняў, з нашага пункту гледжання, з’яўляецца праца доктара мастацтвазнаўства Н. Высоцкай. У Эрмітажы яна знайшла дакументы, якія датычацца вывазу каштоўнасцей Нясвіжскага замка рускай арміяй у час вайны 1812 г. і якія былі падрыхтаваны ў 1905 г. пасля звароту княгіні Марыі Радзівіл аб вяртанні ёй спадчыны. У доказ таго, што вывезеныя каштоўнасці з’яўляюцца маёмасцю князёў Радзівілаў, ёю былі прадстаўлены копіі ранейшых інвентароў, данясенняў. У выніку былі складзены новыя вопісы. У зборніку друкуецца таксама пералік твораў мастацтва з Нясвіжскага замка, перададых польскай дэлегацыі ў 1927 г.

Пералічанае ў зборніку, вядома, толькі кропля ў акіяне нашай спадчыны, раскіданай па свеце. Галоўнае — пошук вядзецца, а яго вынікі, калі не цяпер, не сёння, дык у будучым будуць запатрабаваны дзяржавай.

*__Таццяна Чэкановіч__, студэнтка гістарычнага факультэта БДУ*

## П. К. КРАЎЧАНКА. АБРАННІКІ ВЕЧНАСЦІ = GLI ELETTI DELL’ETERNITA = ELECTS OF ETERNITY. МН., 1999. 142 с.

Калі бярэш у рукі кнігу Пятра Краўчанкі ”Абраннікі вечнасці”, першае, што ўражвае, — афармленне: цудоўная вокладка, папера, а таксама тое, што кніга выдадзена на чатырох мовах: беларускай, рускай, італьянскай, англійскай. Прыцягвае ўвагу і імя аўтара, вядомага дыпламата, вучонага-гісторыка. Не расчароўвае і змест. Сцісла, у папулярнай і адначасова навукова дакладна распавядаецца тут пра двух нашых славутых землякоў — Францыска Скарыну і Міхала Клеафаса Агінскага — з нагоды адкрыцця памятных дошак у іх гонар ў Падуі і Фларэнцыі. Гаворыцца і аб перыпетыях, якія спадарожнічалі гэтым падзеям.

Першая частка кнігі — “Подзвіг Скарыны” — папулярны (напэўна, так і павінна было быць) нарыс. У ім жыццё і дзейнасць Скарыны не разглядаецца. Нарыс адрасаваны людзям, ужо дасведчаным ў гэтых пытаннях. Затое вельмі падрабязна апісаны адзін яскравы факт з біяграфіі асветніка — атрыманне ім ступені доктара медыцыны ў Падуанскім універсітэце (1512). Увогуле, гэта адпавядае і мэце нарыса: у аснову яго пакладзена выступленне аўтара на адкрыцці ў тым жа універсітэце мемарыяльнай дошкі ў гонар нашага земляка.

Другая ж частка — “Паланез надзеі” — напісана ў некалькі іншым стылі. Яна больш нагадвае нататкі падарожніка. Тут больш асабістых уражанняў, адступленняў аб складанасцях, звязаных з адкрыццём мемарыяльнай дошкі ў Фларэнцыі, дзе апошнія гады жыў і памёр Міхал Клеафас Агінскі, нашчадак беларускага роду Глушонкаў. Адначасова аўтар расказвае чытачу аб сваім героі, пра тое, якім насычаным было яго жыццё, якой разнастайнай — асоба, узнёслай і ранімай — душа. На жаль, нягледзячы на сусветную вядомасць, у беларусаў імя М.-К. Агінскага асацыіруецца ўсё яшчэ толькі з яго паланезам “Развітанне з Радзімай”, адным са шматлікіх музычных твораў аўтара.




Вельмі непадобныя гэтыя дзве асобы — Ф. Скарына і М.-К. Агінскі — працавітасць, мэтанакіраванасць, талерантнасць, з аднаго боку, і рамантычная апантанасць, стыхійнасць — з другога. Але, безумоўна, і Скарына, і Агінскі — знакавыя постаці нашага мінулага. Таму ўхвальна, што П. Краўчанка не толькі сам (як чалавек, як асоба) цікавіцца імі, але і зацікаўлівае людзей іншых краін свету.

І вельмі хочацца, каб менавіта такія высакародныя, таленавітыя і адданыя сваёй Радзіме і свайму народу людзі, як Ф. Скарына і М.-К. Агінскі, сталі сапраўднымі сімваламі нашай нацыянальнай самасвядомасці. Бо мае рацыю працытаваны П. Краўчанкам польскі асветнік Гуга Калантай: “Няма нічога больш жудаснага, чым становішча нацыі, якая зразумела, што гіне і губляе сваё імя”.

Каб не здарылася такое з намі, і патрэбны такія кнігі. І як мага больш.

***Алена Русаковіч**, выпускніца Беларускага дзяржаўнага універсітэта*

## JOZEF ŠELEPEC. BIELORUSKÁ LITERATÚRA NA SLOVENSKU PO r. 1945. PREŠOV, 1999. 27 s.

У Еўропе ёсць краіна, якая таксама, як і Беларусь, зусім нядаўна, у 1992 г., абвясціла аб сваёй незалежнасці. Доўгі шлях і шэраг межаў аддзяляюць наш край ад краіны, што прытулілася ў цэнтры Еўропы. Але вуха ловіць, як пароль, нешта неверагодна знаёмае, амаль што роднае. Моўных доказаў даўняй роднасці трапляецца так шмат, што нават непадкаванаму ў гісторыі турысту пачынае здавацца: так яно і было, даўно мы хадзілі аднымі сцежкамі. Але кожнаму народу на зямлі — сваё, наканаванае.

Мова і дзяржава, мова і народ — непадзельныя азначэнні ў свядомасці славакаў. Адна з асноўных цаглін, што ляжыць у падмурку новай Славакіі, яе мова. У былой агульнай краіне Чэхаславакіі заўсёды існавалі дзве культуры, дзве літаратуры. І ў гэтым сэнсе можна сказаць, што адсутнасць моўнай праблемы, мабыць, адзінае, што адрознівае ўвогуле надзвычай падобнае становішча нашых краін. Але ў Славакіі з вялікай павагай ставяцца да іншых славянскіх моваў і культур, тым больш да беларускай. Нашыя ж шляхі падобныя.

На жаль, беларуская літаратура ў Славакіі прадстаўлена не вельмі шырока. Нават літаратуры скандынаўскіх краін ведаюць там у значна большым аб'ёме. Так здарылася, магчыма, таму, што беларуская літаратура засталася ў цені рускай, якую добра прапагандавалі і перакладалі ў Славакіі. І нават калі чарга даходзіла да беларускай літаратуры, арыгіналам для перакладаў часцей за ўсё быў не беларускі тэкст. Добра, што з цягам часу сітуацыя пачала мяняцца.




У 70-х гг. у Славакіі ўжо сталі выходзіць кнігі беларускіх аўтараў, перакладзеныя з беларускай мовы. Гэтаму вельмі дамагла сталая сістэма славацкага літаратуразнаўства, мовазнаўства ды перакладу. Беларускі народ у навуковых даследаваннях быў прадстаўлены як свабодны славянскі народ, які мае сваё ўласнае пісьменства, самабытную культуру і сваё, Богам вызначанае месца ў сям'і славянскіх і індаеўрапейскіх народаў. У літаратуразнаўчых працах аб беларускай літаратуры пачынаюць пісаць як аб самастойнай літаратуры, якая мае свае гістарычныя карані і багатыя традыцыі, што сягаюць да старажытнасці. Перакладчыкі пачынаюць перакладаць непасрэдна з мовы арыгінала.

У пасляваенны час ў бібліяграфічных выданнях кнігі беларускіх аўтараў, выдадзеныя ў Славакіі, яшчэ не былі выдзелены ў асобную групу, а ўваходзілі ў выданні літаратуры народаў СССР, без унутраннага падзелу на нацыянальныя літаратуры. Але паступова вялікі абсяг савецкай літаратуры быў падзелены паводле моўнага і нацыянальнага прынцыпу. Беларуская літаратура як самастойная літаратура займае сваё месца толькі ў 1977 г. Трывалае месца яна знайшла і ў спецыяльных бібліяграфічных выданнях, якім была, напрыклад, "Бібліяграфія перакладаў літаратур народаў СССР за 1945–1959 г." Юліі Лінжбохавай-Ліхчаеровай і ў "Паказальніку" Лючыі Бартэкавай, якія выйшлі ў 1980 г. у Браціславе.

Паралельна з "Бібліяграфіяй" у Славакіі з'яўляліся публікацыі пра беларускую літаратуру, гаварылася аб яе галоўных дасягненнях. Гэта былі і звесткі аб

беларускіх аўтарах і найбольш значных перакладах на славацкую мову. Аб беларускай літаратуры, аб яе асаблівых і традыцыйных тэндэнцыях гаворыцца ў 2 томе “Dejiny svetovej literatury: Bieloruska literatura” (1963). Гістарычны агляд напісаў прафесар Вацлаў Жыдліцкі. Аб беларускай літаратуры і яе творцах ад пачатку да нашых дзён расказвае “Mala encyclopedia spisovatel’ov sveta”, (Браціслава, 1978). Тут выдзелены Ф. Скарына, В. Дунін-Марцінкевіч, Ф. Багушэвіч, Цётка, Я. Купала, Я. Колас, З. Бядуля, Ц. Гартны, М. Багдановіч, К. Крапіва, М. Лынькоў, К. Чорны, У. Дубоўка, Я. Пушча, П. Броўка, П. Глебка, М. Лужанін, М. Танк, А. Кулакоўскі, А. Куляшоў, Я. Брыль, П. Панчанка, А. Макаёнак, І. Мележ, І. Шамякін, В. Быкаў, І. Навуменка, А. Адамовіч, У. Караткевіч, І. Пташнікаў, Р. Барадулін.

Працягваючы добрыя традыцыі славацкай бібліяграфіі, у 1999 г. выходзіць кніга Йозефа Селепеца “Беларуская літаратура ў Славакіі да 1945 г.” (Прэшаў, 1999). Яна змяшчае звесткі пра 50 кніг беларускіх аўтараў і зборнікаў з творамі беларускай літаратуры, уключае ў сябе наступныя раздзелы: I. Народная творчасць. II. Паэзія. III. Проза. IV. Драматургія.

Ёсць паказальнік імёнаў, перакладчыкаў, аўтараў прадмоў і пасляслоўяў, рэдактараў.

Выданне адрасавана даследчыкам-славістам, якія вывучаюць адну з буйнейшых славянскіх літаратур свету. І калі сапраўды нашыя шляхі ідуць побач, то застаецца толькі пажадаць, каб у Беларусі пабачыў свет аналагічны даведнік, прысвечаны славацкай літаратуры ў Беларусі.

***Алеся Белавусава****, супрацоўніца Цэнтра імя Ф. Скарыны*



## З РЭДАКЦЫЙНАЙ ПОШТЫ

Сёння атрымаў я чарговы (юбілейны: 49/50) нумар “Кантактаў і дыялогаў” (вельмі дзякую за памяць!) і ўзрадаваўся, пабачыўшы рэцэнзію на кніжку Эўгеніюша Міравовіча. Тым болей, што днямі Навуковая рада нашага аддзела распачала старанні пра яго габілітацыю (вельмі яму ўдалася кніга “ Нацыянальная палітыка ПНР”, выдадзеная Беларускім гістарычным таварыствам).

Можа, варта было б у наступным выданні вашага бюлетэня дадаць, што польская версія кніжкі, якая рэцэнзавалася, з’явілася ў Варшаве (Mironowicz E. Białoruś. Warszawa, 1999), дзякуючы выдавецтву “ТРЫЁ” Гістарычнага інстытута Варшаўскага універсітэта — у серыі “Гісторыя дзяржаў свету ў XX стагоддзі”. Далучаю рэкламу гэтага выдавецтва з інфармацыяй пра серыю. З запланаваных кніг сёлета з’явяцца яшчэ “Грузія”, “Канада”, “Югаславія” і, відаць, “Турцыя”. Мне здаецца, што такое ўдакладненне з’яўляецца істотным, бо зацікаўлены беларускі чытач зможа даведацца аб папулярызацыі ведаў пра Беларусь у Польшчы, да таго ж адбываецца гэта ў форме, якая сведчыць, што Беларусь трактуецца як нармальная, самастойная дзяржава на адным узроўні, напрыклад, з Францыяй. Можа гэта з нейкай нагоды прыдацца ў палеміцы з сімпатыкамі ідэі адзінства з Расіяй. У той жа серыі мы плануем таксама падобны том пра Польшчу, толькі што аўтар затрымліваецца.

***Ежы Тамашэўскі,*** *прафесар (Варшава)*

# НАДРУКАВАНА ПРА КАНТАКТЫ Ў БЕЛАРУСІ І Ў СВЕЦЕ

У падрыхтоўцы бібліяграфіі ўдзельнічалі:

***Моніка Банькоўскі-Цюліг*** *(Швейцарыя),* ***Алесь Баркоўскі*** *(Саха-Якуцiя),* ***Раіса Жук-Грышкевіч*** *(Канада),* ***Мікалай Ількевіч*** *(Расія),* ***Святлана Кошур, Цімафей Ліякумовіч*** *(ЗША),* ***Адам Мальдзіс, Таццяна Махнач, Таццяна Пятровіч, Алесь Рудакоў*** *(Расія),* ***Міхал Швэдзюк*** *(Вялікабрытанія),* ***Сакрат Яновіч*** *(Польшча).*

Перавага пры складанні бібліяграфіі аддаецца кніжным і часопісным публікацыям. З публікацыямі пра ўзаемасувязі, змешчанымі ў газетах, можна пазнаёміцца ў Банку інфармацыі Цэнтра імя Ф. Скарыны.

### БЕЛАРУСЬ • Агульныя пытанні

**Августовский** канал. Золотая осень–98 = The August Autumn–98: Выступления участников международного фотопленера. Гродно, 1999.

**Акудовіч Валянцін, Анціпенка Алесь, Бабкоў Ігар, Санько Сяргей.** Маргінальнасць, мультыкультуралізм і “вайна культураў”: Дыскусія Групы постімпэрскіх досьледаў пры Беларускім калегіюме // Фрагмэнты. 1999. № 1–2. С. 6–17.

**Андрэеў Уладзімір.** Прафесіяналізм у еўрапейскім кантэксце: [Пра замежную адукацыю] // Настаўн. газ. 2000. 1 лют.

**Анціпенка Алесь.** Радыкалізм мысьленьня, унівэрсалізм і ўніфікацыя культураў // Фрагмэнты. 1999. № 1–2. С. 116–119.

**Бабкоў Ігар.** Музэй “Эўропа” // Фрагмэнты. 1999. № 1–2. С. 5.

**Бабкоў Ігар.** Этыка памежжа: транскультурнасць як беларускі досьвед // Фрагмэнты. 1999. № 1–2. С. 75–88.

**Балицкий Януш.** Демографический кризис Европы — вызов для церкви и государства // Труды Первого конгресса “Демографические проблемы Беларуси”. Минск, 1999. С. 9–10.

**Баркоўскі Павал.** Гермэнэўтыка перакладу // Фрагмэнты. 1999. № 1–2. С. 120–152.

**Барысевіч Юрась.** Камунікацыя і культурная ідэнтычнасьць // Фрагмэнты. 1999. № 1–2. С. 229–234.

**Бидерман Шарль Клод.** Архивная работа и деятельность Международной службы розыска (МСР): шансы и возможности сотрудничества / Пер. з ням. Наталлі Рэдказубавай // Архівы і справаводства=Архивы и делопроизводство. 2000. № 1. С. 38–43.

**Бразгуноў Алесь.** Беларуская “Гісторыя пра Атылу…” XVI стагоддзя // Першацвет. 2000. № 1. С. 47.

**Гончар Э. Н.** Тенденции развития профессионального аграрного образования в Европе накануне XXI века // Адукацыя і выхаванне. 2000. № 1. С. 74–75.

**Дунаевский О. Е.** Взгляд с брестской колокольни: (Соц.-полит. процесс в Беларуси и СНГ: 1991–1996 гг.). Брест, 1998.

**Жалкоўскі Алесь.** Да III Усебеларускага фестывалю нацыянальных культур: На розных мовах гучаць песні. І радуюць сэрцы [на Воранаўшчыне] // Гродзен. праўда. 2000. 11 студз.

**Казущик В. Д.** Беларусь и Каирская программа действий // Труды Первого конгресса “Демографические проблемы Беларуси”. Минск, 1999. С. 50–51.

**Кнацько Г. Дз.** Ратны подзвіг ураджэнцаў Беларусі на франтах вайны і ў еўрапейскім руху Супраціўлення // Беларусь у гады Вялікай Айчыннай вайны: Праблемы гістарыяграфіі і крыніцазнаўства. Мн., 1999. С. 198–209.

**Коўкель І. І.** Да праблемы пастаноўкі “Беларускага пытання” на Генуэзскай Міжнароднай канферэнцыі (красавік – май 1922 г.) // Весн. Гродзен. дзярж. ун-та: Сер. 1. 1999. № 1. С. 5–9.

**Кузняцова Ірына.** Турботы і клопаты: Нататкі з нагоды правядзення Міжнароднага дзіцячага пленэру // Літ. і мастацтва. 2000. 7 студз.

**Лявонава Ева.** Творчасць Васіля Быкава і Жана Поля Сартра праз прызму традыцыі Дастаеўскага: Філасофска-эстэтычныя перасячэнні // Род. слова. 2000. № 1. С. 26–29.

**Лецка Яўген.** Дотык жывой душы: [Пра кантакты з дыяспарай] // Голас Радзімы. 2000. 26 студз.

**Лыч Леанід.** Ідэя дзяржаўнай незалежнасці ў славянскім свеце // Полымя. 2000. № 1. С. 198–216.

**Мартынов В. Ф.** Мировая художественная культура: Учеб. пособие. Минск, 1999. 2 выд.

**Панада Уладзімір.** Беларусь пад сузор’ем ТАСІС // Беларусь. 1999. № 11. С. 18–19, 36–37.

**Розенблат Е. С., Еленская И. Э.** Польские агенты в Советской России: Дневник разведчика // Берасцейскі хранограф: Зборнік навук. прац. Брэст, 1999. Вып. 2. С. 362–363.

**Смирнов В. С.** Внешняя политика и дипломатия Республики Беларусь: Курс лекций. Минск, 1999.

**Солапаў Міхась.** “Магічны крышталь” творцы: [Пра канцэрт “Музыка Беларусі, Расіі і Польшчы на мяжы XX–XXI стагоддзяў” Алега Крымера] // Літ. і мастацтва. 2000. 14 студз.

**Сороко Э. М.** Устойчивые состояния геополитических структур или неравновесная социодинамика мира в макромасштабе // Труды Первого конгресса “Демографические проблемы Беларуси”. Минск, 1999. С. 75–76.

**Сяргеева Галіна.** ЗБС “Бацькаўшчына” прайшло перарэгістрацыю // Голас Радзімы. 2000. 19 студз.

**Хохлов И. В., Буров И. С.** Циклы развития Беларуси в контексте мировой истории // Труды Первого конгресса “Демографические проблемы Беларуси”. Минск, 1999. С. 79–80.

## • Беларусь – Аўстралія

**Гардзіенка Алег.** Доля эмігранта: [Рэц. на: Алехнік Алесь. Пад бел-чырвона-белым (Memento patriam). Вільня, 1999] // Полымя. 2000. № 1. С. 298–303.

## • Беларусь – Афганістан

**Гулидова В. В.** И будет вечно жечь Афганистан даже в объятиях Родины своей… // З гісторыі вякоў і пакаленняў Іўеўскага краю: Матэрыялы навукова-практычнай краязнаўчай канферэнцыі 15 лютага 1998 г. Іўе. Гродна, 1999. С. 212–215.

## • Беларусь – Балгарыя

**Беларусь** – Балгарыя. Мост праз стагоддзі: Матэрыялы канферэнцыі маладых вучоных, прысвечанай 120-й гадавіне вызвалення Балгарыі з-пад асманска-турэцкага прыгнёту. Мн., 1999.

**К’ёсаў Аляксандр** [Балгарыя]. Самакалянізаваныя культуры // Фрагмэнты. 1999. № 1–2. С. 216–228.

## • Беларусь – Ватыкан

**Юбілей** беларускай праграмы Радыё Ватыкана // Літ. і мастацтва. 2000. 14 студз.

## • Беларусь – Вялікабрытанія

**Аудирование** английской речи: Учеб. пособие для студентов 2-го курса фак. англ. яз. / Е. Б. Карневская, В. С. Абламейко, Т. П. Митева и др. Минск, 1999.

**Бабинская П. К., Ранцевич Е. В.** Структурно-композиционные особенности деловых писем на английском языке. Минск, 1998.

**Библия** изучающего английский = The Gospel according to saint Matthew / Авт.-сост. В. К. Погоцкий. Минск, 1999.

**Кипнис И. Ю.** Английский язык: Учеб.-метод. пособие по чтению для студентов машиностроит. фак. Минск, 1998.

**Макмилин Арнольд** [Лондан]**.** Возвращение: Феномен Натальи Арсеньевой // Нёман. 2000. № 1. С. 223–231.

**Немагай Святлана.** Нашчадак музычных традыцый славутага роду: [Пра музыказнаўцу з Англіі Анджэя Залускага, нашчадка М.-К. Агінскага] // Мастацтва. 2000. № 1. С. 41–42.

**Пазняк Святлана.** Чарадзейныя сны: На сцэне Купалаўскага тэатра — прэм’ера: [“Сон у летнюю ноч” У. Шэкспіра] // Чырвон. змена. 2000. 18 студз.

**Симхович В. А.** Практическая грамматика английского языка = English grammar in communicanion: Учеб. пособие для студентов эконом. специальностей вузов. Минск, 1999. 2 выд.

**Слука Алег.** Пад зоркай навукі: [Пра школьную адукацыю ў Вялікабрытаніі] // Настаўн. газ. 2000. 4 студз.

**Спенсер Г.** Опыты научные, политические и философские: Классическая философская мысль / Пер. с анг. под. ред. Н. А. Рубакина. Минск, 1998.

**Таболіч Алена, Вікторка Ларыса.** Імёны і прозвішчы англамоўных пісьменнікаў: Вялікабрытанія // Род. слова. 2000. № 1. С. 77–79.

**Фрэнсыс Сэмюэль.** Іншы твар мультыкультуралізму / Пер. з англ. Ігара Бабкова // Фрагмэнты. 1999. № 1–2. С. 38–44.

## • Беларусь – габрэі

**Васілеўскі П.** Не першая, не апошняя: [Пра канферэнцыю “Габрэйская цывілізацыя Усходняй і Цэнтральнай Еўропы”] // Літ. і мастацтва. 2000. 25 лют.

**Герасимова И. П.** К истории еврейского отделения педфака БГУ в 20-е – 30-е годы: (Преподаватели и учебная программа) // Берасцейскі хранограф. Брэст, 1999. Вып. 2. С. 184–198.

**Милякова Л.** [Масква]. Забытый погром: Лида, апрель 1919 г. // Берасцейскі хранограф. Брэст, 1999. Вып. 2. С. 335–349.

**Розенблат Е. С.** Холокост евреев Беларуси в отечественной и зарубежной историографии: социально-экономические аспекты // Берасцейскі хранограф. Брэст, 1999. Вып. 2. С. 205–226.

**Сабалеўская В. А.** Традыцыйная яўрэйская сям’я на Беларусі ў канцы XVIII – першай палове XIX стагоддзя // Весн. Гродзен. дзярж. ун-та: Сер. 1. 1999. № 1. С. 17–23.

**Смілавіцкі Леанід.** Восемсот дзён барацьбы і болю / Уступ. слова Эмануіла Іофе // Полымя. 1999. № 12. С. 153–170.

**Шепетюк В. В.** Еврейское население Полесского воеводства по данным статистики межвоенного периода // Берасцейскі хранограф. Брэст, 1999. Вып. 2. С. 54–72.

## • Беларусь – Германія

**Выхота Валянціна.** Супастаўленне паэтычных малюнкаў у паэме Якуба Коласа "Новая зямля" і ў класікаў нямецкай паэзіі // Wie geht's?: Almanach der Belorussischen Gesellschaft der Deutschen "Wiedergeburt". Minsk, 1999. S. 38–40.

**Дзягілева Галіна.** Дзякуй, мая Юліана!: [Пра Юліяну Вітан-Дубейкаўскую] // Wie geht's? Minsk, 1999. S. 44–45.

**Каваленя А.** Заснаванне прагерманскіх маладзёжных арганізацый у заходніх рэгіёнах Беларусі. 1941–1944 гг. // Берасцейскі хранограф. Брэст, 1999. Вып. 2. С. 86–92.

**Кашкуревич Арлен** = Kaschkurewitsch Arlen. Мой Гете = Mein Goethe // Wie geht's? Minsk, 1999. S. 13–16.

**Кузьменка У. І.** Аб трагедыі і пакутах народа: (Фашысцкі акупацыйны рэжым на старонках выданняў) // Беларусь у гады Вялікай Айчыннай вайны. Мн., 1999. С. 163–197.

**Курков И.** К вопросу административно-территориальной политики немецких оккупационных властей на территории Брестской области (1941–1944 гг.) // Берасцейскі хранограф. Брэст, 1999. Вып. 2. С. 357–361.

**Літвін А. М.** Архіўныя дакументальныя крыніцы аб антыфашысцкай барацьбе на Беларусі // Беларусь у гады Вялікай Айчыннай вайны. Мн., 1999. С. 33–52.

**Мальдзіс Адам** = Maldzis Adam. Беларуска-нямецкае культурнае ўзаемадзеянне = Belarussisch-Deutsche Kulturelle Wechselbeziehungen: Рэнесанс – асветніцтва – сучаснасць = Renaissance – Aufklaerung – Gegenwart // Wie geht's? Minsk, 1999. S. 8–12.

**Марціновіч Алесь.** Дух вольнасці: Антоні Генрык Радзівіл // Марціновіч Алесь. У часе прасветленыя твары: Гістарычныя эсэ, нарысы. Мн., 1999. С. 187–203.

**Марціновіч Алесь.** Пераможца і ахвяра Сілістрыі: Карл Шыльдэр // Марціновіч Алесь. У часе прасветленыя твары. Мн., 1999. С. 204–218.

**Паремская Д. А.** Немецкая грамматика для начинающих. Минск, 1999.

**Прыбыток М. Я.** Беларуская мова як метадычны рэсурс у выкладанні нямецкай мовы // Нар. асвета. 2000. № 1. С. 104–110.

**Пфлюбайль С.** Политические проблемы Германии из-за отказа от атомной энергетики // Труды Первого конгресса "Демографические проблемы Беларуси". Минск, 1999. С. 103–105.

**Резник А. Н. =** Reznik A. N. О праздновании юбилея И.-В. Гете в Германии и Беларуси = Zum Begehen des Goethe-Jubilaeums in Deutschland und Belarus // Wie geht's? Minsk, 1999. S. 41–43.

**Рублеўская Людміла.** Па сцежках дрывасекаў, або Паляны Марціна Хайдэгера // Першацвет. 2000. № 1. С. 44–45.

**Сакалоўскі У. Л.** Гётэ ў духоўным жыцці Беларусі // Wie geht's? Minsk, 1999. S. 32–37.

**Цяцёркіна Вольга.** Нямеччына ўласнымі вачыма // Студэнцкая думка. 1999. № 9. Лістап. – снеж. С. 32–33.

**Шаранговіч Наталля.** Заціснуты між полюсаў: [Пра выстаўку нямецкага мастака Герхарда Альтэнбурга] // Літ. і мастацтва. 2000. 25 лют.

**Шунейка Яўген.** З сям'і богаабраных: [Пра мастака Іагана Шрэтэра] // Дыялог. 2000. № 2. С. 16–17.

**Якубенко Елена.** Мир волшебных звуков: Занятие по слушанию музыки Р. Шумана // Пралеска. 2000. № 1. С. 39.

**Ciechanowicz Lech**. O Lidzie po niemiecku: [Пра брашуру доктара Карла Фогеля "Ліда", выдадзеную ў 1917 г.] // Ziemia Lidzka. 1999. Nr. 2. Maj. S. 6.

**Fröschle H. =** Фрешле Х. Goethes Verhältnis zur Welt der Slawen, besonders der Russen = Гете и его отношение к славянскому миру и культуре, в первую очередь к русской культуре: Доклад на симпозиуме "Гете и Беларусь". Минск, 1999, 28 мая // Wie geht's? Minsk, 1999. S. 20–31.

**Gorbatsch Tatjana** = Горбач Татьяна. Ich begruesse Euch, liebe Freunde! = Приветствую вас, дорогие друзья! // Wie geht's? Minsk, 1999. S. 3–7.

## • Беларусь – Грэцыя

**Крепак Борис.** Владимир Минейко: "Отец скрывал свою "буржуазную" родословную". В Минске живут родственники Георгия Папандреу: [Інт. з Мінэйкам] // Бел. деловая газ. 2000. 28 янв.

## • Беларусь – Данія

**Ідэал** "Усеагульнай адукацыі" па М. Ф. С. Грундтвігу // Асамблея дэмакратычных няўрадавых арганізацыяў: Бюлетэнь. 1999. № 11. Лістап. – снеж. С. 2–4.

## • Беларусь – ЗША

**Геніюш Ларыса.** “Адна толькі праўда: зямля і радзіма…”: [Публікацыя Л. Юрэвічам (ЗША) урыўкаў ліставання паэтэсы з бел. дыяспарай] // Полымя. 2000. № 1. С. 168–179.

**Методология** познания зарубежной классики в старших классах: (На примере творчества Э. Хемингуэя): Учеб.-метод. пособие / М. П. Жигалова. Брест, 1999.

**Станкевіч Янка.** Крывіччына ў “Толков’ым словар’у живаго великорусскаго языка” В. Даля: [Арт. бел эмігранта ў ЗША] // Спадчына. 1999. № 5–6. С. 132–160.

## • Беларусь – Ізраіль

**Іофе Эмануіл.** Беларускія яўрэі ў Ізраілі // Голас Радзімы. 2000. 26 студз.

**Пелед-Флэкс Мартин:** “Очень важно понять прошлое, но также очень важно смотреть в будущее”: [Інт. з паслом Ізраіля] / Зап. Анны Соусь // Нар. воля. 2000. 27 студз.

## • Беларусь – Індыя

[**Бхадури Маду**]. В сари и ботинках шагает по белорусской земле писательница и дипломат Маду Бхадури, Чрезвычайный и Полномочный Посол Индии в Республике Беларусь: [Інт.] / Зап. Юлии Коваленко // Туризм и отдых. 2000. 27 янв.

## • Беларусь – Казахстан

**Лецка Яўген.** Некалькі дзён у Мінску наместніка Нурсултана Назарбаева, беларуса Паўла Атрушкевіча // Звязда. 2000. 15 студз.

## • Беларусь – Канада

**Жук-Грышкевіч Раіса.** Вільня мусу, а Летува русу: [Ліст з Канады да Валдаса Банайціса з Новай Вілейкі] // Наша ніва. 2000. 3 студз.

**Зубович Вячеслав.** Канада глазами медика // Пралеска. 1999. № 12. С. 42–43.

## • Беларусь – курды

**Черказян Ганад.** Шамдзін: Навелы, лірыка / Пер. Рыгора Барадуліна. Мн., 1998.

## • Беларусь – Латвія

**Бучэль Надзя** [Даўгаўпілс]. Зорка надзеі // Голас Радзімы. 2000. 12 студз.

**Якобсон Э. И.** [Рыга]. Латвия и Белоруссия: Начало отношений (1919–1920) // Берасцейскі хранограф. Брэст, 1999. Вып. 2. С. 142–157.

## • Беларусь – Літва

**Мілаш Леакадзія.** “Дзярэчынскі дыярыюш” у Вільні // Голас Радзімы. 2000. 26 студз.

**Мілаш Леакадзія.** “Настаўнік, перад імем тваім”: [Пра Яраслава Станкевіча, настаўніка віленскай беларускай школы імя Ф. Скарыны] // Наша слова. 2000. 19 студз.

**Пялінак Вячаслаў.** Блаславёны віленскі біскуп Юры Матулевіч [Матулайціс] // Спадчына. 1999. № 5–6. С. 69–85.

**Сіюль Антон.** Страчаны скарб – 3: [Пра выстаўку “Хрысціянскае мастацтва Літвы”] // Наша ніва. 2000. 17 студз.

**Харэўскі Сяргей.** “Каб знайшлі, дык пакралі б”: [Пра музейныя каштоўнасці, знойдзеныя літоўскімі рамонтнікамі ў 1985 г.] // Наша ніва. 2000. 17 студз.

**Шапран Сергей.** Бывший богатырь русского кино: [Інт. з літоўскім акцёрам Рэгімантасам Адамайцісам] / Зап. // Бел. деловая газ. 2000. 25 янв.

**Шупа Сяргей.** 20 гадоў ад пачатку: [Арт. галоўнага рэдактара радыё “Балтыйскія хвалі” ў Вільнюсе] // Наша ніва. 2000. 3 студз.

**Iwanowski Witold**. Wyemigrował… pomnik [К. Каліноўскага — у літоўскі горад Шальчынінкай] // Głos znad Niemna. 2000. 6 stycz.

## • Беларусь – Малдова

**Мігуліна Таццяна.** Музыка фарбаў: [У Кішынёве адбылася выстаўка жывапісу Вячаслава Ігнаценкі] // Голас Радзімы. 2000. 12 студз.

## • Беларусь – Нідэрланды

**Шатон Уладзімір.** Замест пасляслоўя: [Пра Эразма Ратэрдамскага] // Крыніца. 1999. № 10. С. 185–189.

## • Беларусь – Польшча

**Астрога В. А.** Вывучэнне польскай гісторыі Беларусі (1921–1941 гг.) // Берасцейскі хранограф. Брэст, 1999. Вып. 2. С. 254–257.

**Букчин Семен.** Чем гордятся и чего стыдятся поляки [у XX ст.] // Бел. деловая газ. 2000. 12 янв.

**Даніленка Сяргей.** Міф і радзіма: Сакралізацыя дзяржавы-Радзімы ў літаратуры польска-беларускага рамантызму. Мн., 1999.

**Вабішчэвіч Аляксандр.** Канферэнцыя ў Беластоку: крок у пераасэнсаванні мінулага // Голас Радзімы. 2000. 5 студз.

**Вандроўнік** дальні, вольнасці змагар: Размова пра вялікага паэта: Да 200-годдзя Адама Міцкевіча / Склад. А. А. Ігнацьева. Мазыр, 1998.

**Васілеўскі П.** Польскі інстытут: праца за год // Літ. і мастацтва. 2000. 14 студз.

**Вялікі А. Ф.** Перасяленне беларускага насельніцтва з Брэсцкай вобласці ў Польшчу ў адпаведнасці з пагадненнем ад 9 верасня 1944 года // Берасцейскі храніграф. Брэст, 1999. Вып. 2. С. 135–141.

**Кавалёў Сяргей.** Ян Пратасовіч — паэт, філёзаф, энцыкляпэдыст // Спадчына. 1999. № 5–6. С. 116–131.

**Каўка Аляксей.** Сябра мой на Тамцы: Развагі з нагоды юбілею [беларусіста з Варшавы Юрыя Туронка] // Скарыніч: Літаратурна-навуковы гадавік. Мн., 1999. Вып. 4. С. 192–193.

**Квачук Е. Г.** Полесский род Выслоухов // Загароддзе–1: Матэрыялы Міждысцыплінарнага навуковага семінара па пытаннях даследавання Палесся (Мн., 19.09.1997). Мн., 1999. С. 34–35.

**Коўкель І. І., Сіткевіч С. С.** Польскі рух супраціўлення на Іўеўшчыне ў 1939–1953 гг. // З гісторыі вякоў і пакаленняў Іўеўскага краю. Гродна, 1999. С. 136–141.

**Кошур Святлана.** Рута ў жыцці Адама Міцкевіча // Кошур Святлана. На зямлі Карэліцкай. Гродна, 1999. С. 27–31.

**Кошур Святлана.** Па старонках твораў Уладзіслава Сыракомлі // Кошур Святлана. На зямлі Карэліцкай. Гродна, 1999. С. 40–44.

**Кухарчык Яцэк.** Праблемы з мультыкультуралізмам / Пер. з пол. С. Санько // Фрагмэнты. 1999. № 1–2. С. 45–74.

**Лабачэўская В. А.** Палессе ў культуры Польшчы 20–30-х гадоў // Загароддзе–1. Мн., 1999. С. 40–43.

**Лабынцаў Юрый, Шчавінская Ларыса.** Пра Рыбалы — беларускі царкоўны прыход у Польшчы // Голас Радзімы. 2000. 19 студз.

**Лукша У.** Мясцінамі Міцкевіча: Замалёўкі з натуры. Маладзечна, 1998.

**Майсяёнак А. Г.** Польскі вучоны-медык [Станіслаў Грынюк] родам з Іўеўшчыны // З гісторыі вякоў і пакаленняў Іўеўскага краю. Гродна, 1999. С. 195–197.

**Марціновіч Алесь.** Ад'ютант паўстанцаў: Юльян Урсын Нямцэвіч // Марціновіч Алесь. У часе прасветленыя твары. Мн., 1999. С. 133–149.

**Марціновіч Алесь.** Духоўны радца будучыні: Іаахім Лялевель // Марціновіч Алесь. У часе прасветленыя твары. Мн., 1999. С. 270–288.

**Марціновіч Алесь.** "Каб жылі ўсе народы шчасліва…": Ян Вісліцкі // Марціновіч Алесь. У часе прасветленыя твары. Мн., 1999. С. 20–32.

**Марціновіч Алесь.** Пакутнік за свабоду — "архіпрамяністы": Тамаш Зан // Марціновіч Алесь. У часе прасветленыя твары. Мн., 1999. С. 290–308.

**Марціновіч Алесь.** Пан Тадэуш з-пад Ляхавіч: Тадэуш Райтан // Марціновіч Алесь. У часе прасветленыя твары. Мн., 1999. С. 167–186.

**Марціновіч Алесь.** Птушкі вяртаюцца да гнёздаў: Іосіф Копаць // Марціновіч Алесь. У часе прасветленыя твары. Мн., 1999. С. 150–166.

**Мусіенка С. П.** Беларускія абрады і фальклор у "Баладах і рамансах" і драматычнай паэме "Дзяды" Адама Міцкевіча // Весн. Гродзен. дзярж. ун-та: Сер. 1. 1999. № 1. С. 70–80.

**Мяшковіч Н. Я.** Некаторыя аспекты дзейнасці беларускіх паслоў у польскім сейме 1922–1928 гг. // Берасцейскі храніграф. Брэст, 1999. Вып. 2. С. 25–33.

**Польска-беларускія** моўныя, літаратурныя, гістарычныя і культурныя сувязі = Polsko-białoruskie związki językowe, literackie, historyczne i kulturowe: Матэрыялы VI Міжнароднай навуковай канферэнцыі "Шлях да ўзаемнасці". Гродна, 1999.

**Смалянчук Алесь.** "Kurier Krajowy" як беларуска-польскі выдавецкі праект (Вільня, 1912–1914) // Спадчына. 1999. № 5–6. С. 106–115.

**Судлянкова В. А.** Ю. У. Нямцэвіч у Англіі // Загароддзе–1. Мн., 1999. С. 36–39.

**Туронак Юры** [Варшава]. Крыху пра сябе // Скарыніч. Мн., 1999. Вып. 4. С. 194–197.

**Тычка Галіна.** Янка Купала і Уладыслаў Сыракомля: Пераемнасць творчых традыцый // Полымя. 1999. № 12. С. 187–203.

**Хаўстовіч Мікола.** Гавэнды Ігната Ходзькі // Літ. і мастацтва. 2000. 28 студз.

**Хвірысюк В. М.** Арганізацыя партызанскай барацьбы ў Заходняй Беларусі супраць польскіх уладаў у 1921–1922 гг. // Берасцейскі храніграф. Брэст, 1999. Вып. 2. С. 92–100.

**Чернякевич А. Н.** К истории установления польской власти в Бресте в 1919 году // Берасцейскі храніграф. Брэст, 1999. Вып. 2. С. 101–107.

**Banasińska Renata.** Moje spotkania ze śpiewakami Polesia: Komunikat z seminarium poświeconemu [!] Polesiu // Загароддзе–1. Мн., 1999. С. 54.

**Bukowski Jerzy**. Kłopoty z polskim patriotyzmem // Głos znad Niemna. 2000. 21 stycz.

**Chmielnicka Ludmiła**. Mecenat książąt Ogińskich na Witebszczyźnie // Głos znad Niemna. 2000. 6 stycz.

**Engelking Anna.** Śladami Józefa Óbrębskiego po 60 latach: Raport z rekonesansu terenowego na Polesiu // Загароддзе–1. Мн., 1999. С. 44–51.

**Gołombowska Oksana**. Muzyka w kulturze narodowej // Głos znad Niemna. 2000. 6 stycz.

**Iwanowski Witold**. Zwycięstwo zwyciężonych: Pamięć o bohaterach Powstania Styczniowego trwa // Głos znad Niemna. 2000. 21 stycz.

**Kanunnikow Siergiej**. Białoruś i Polska — różne losy..: Rodem z obozu socjalistycznego // Głos znad Niemna. 2000. 28 stycz.

**Kołyszko Aleksander**. Spojrzeć w perspektywę: [Пра адукацыю палякаў у Беларусі] // Ziemia Lidzka. 1999. Maj. Nr. 2. S. 1, 4.

**Mickiewicz Adam.** Dziady: W 2 t. = Міцкевіч Адам. Дзяды: У 2 т. Мн., 1999. Т. 1, 2.

**Na niwie** kultury polskiej: Życie i twórczość zagranicą działaczy kultury polskiej — związanych z Grodzieńszczyzną i Białorusią (1939–1999 г.) // Głos znad Niemna. 2000. 14 stycz.

**Ruszczyk Grażyna.** Fotografie Polesia w zbiorach Instytutu Sztuki PAN // Загароддзе–1. Мн., 1999. С. 52–53.

**Siemionow Aleksander**. Pierwszy Biskup Diecezji Gdańskiej [Эдвард О'Рурк] // Ziemia Lidzka. 1999. Marz. Nr. 1. S. 6-7.

**Wołosewicz Michał**. Echo legendy: [Вершы пра каханне Адама Міцкевіча і Марыі Верашчакі]. Lida, 1999.

## • Беларусь – Расійская Федэрацыя

### • Беларусь – Расія

**Алешка Т. В.** Поэзия Беллы Ахмадулиной // Нар. асвета. 2000. № 1. С. 126–133; № 2. С. 99–105.

**Анифер Любовь.** Мир волшебных звуков: Занятие по слушанию музыки М. Мусоргского и рисованию // Пралеска. 2000. № 1. С. 38–39.

**Арлова Таццяна.** Бяда ад пяшчотнага сэрца: [Пра пастаноўку ў Мінску спектакляў паводле твораў М. Карамзіна і П. Гладзіліна] / Пер. з рус. // Мастацтва. 2000. № 1. С. 5–8.

**Бабарэка Алеся** [Масква]**.** Слова пра бацьку [Адама Бабарэку] // Скарыніч. Мн., 1999. Вып. 4. С. 176–187.

**Бахаиьков А. Е., Гайдукевич И. М., Шуба П. П.** Толковый словарь русского языка: Около 7500 слов. Минск, 1999.

**Бочкарева Ольга.** Мир волшебных звуков: Занятие по слушанию музыки П. И. Чайковского // Пралеска. 2000. № 1. С. 37–38.

**Вайсёнак Юрась.** "Пушкін — беларуская культура — сучаснасць": [Рэц. на кнігу пад той жа назвай] // Літ. і мастацтва. 2000. 21 студз.

**Голубеў Валянцін.** Беларуска-расійскія дачыненні: гісторыя, сучаснасць, перспектывы // Ад "тутэйшасці" да нацыянальнай дзяржаўнасці. [Мн.], 1999. С. 234–243.

**Горбачев А. Ю.** От поэтизации одиночества до поэзии гражданственности: Дооктябрьское творчество Маяковского // Нар. асвета. 2000. № 2. С. 105–115.

**Жигалова М. П.** Стандарты по курсу "Методика преподавания русской литературы" // Нар. асвета. 2000. № 2. С. 153–159.

**Забужко Аксана.** Разьвітаньне зь імпэрыяй: некалькі рысак да аднаго партрэту: [Пра Іосіфа Бродскага] // Фрагмэнты. 1999. № 1–2. С. 152–199.

**Зямчонак І.** Сімяон Полацкі і царкоўнае вучылішча ў Броннай Слабадзе Масквы // Падарожнік. 1998. № 12. С. 15–16.

**История** России с древнейших времен до конца XVI века: Метод. рекомендации по одноимен. курсу для студентов / Сост. О. Э. Проценко. Гродно, 1999.

**Каўка Аляксей.** Мікалай Папоў: беларускі архіў [у Маскве рускага] рэжысёра / Пер. з рус. // Мастацтва. 2000. № 1. С. 43–45.

**Каўка Аляксей** [Масква]**.** Спаталенне жывой вадою, або Шляхам узвышэнства // Скарыніч. Мн., 1999. Вып. 4. С. 171–175.

**Люкевич В. В.** Федор Сологуб: Тяжба с обезличенным, бездуховным миром // Нар. асвета. 2000. № 1. С. 117–125; № 2. С. 91–99.

[**Мазгавой Леанід**]. "У Сакурава я гатовы іграць усё…": [Пра фільм "Малох" рус. рэжысёра Аляксандра Сакурава]: [Інт.] / Зап. Нэлі Прывалавай // Голас Радзімы. 2000. 5 студз.

**Михальчук Т. Г.** Ситуация речевого этикета и стилистические приемы: Поэма Н. В. Гоголя "Мертвые души" на уроке культуры речи // Нар. асвета. 2000. № 1. С. 110–116.

**Мищенчук Микола.** "Я мыслю, чувствую: для духа нет оков…": [Пра рус. паэта Я. Баратынскага] // Нёман. 2000. № 1. С. 232–244.

**Монина Наталья.** Зачарованный лес в Купаловском театре: [Спектакль "Лес" па п'есе А. Астроўскага] // Здравый смысл. 2000. 19–26 янв.

**Пранузa Паўлюк.** Ліст да Міхаіла Ісакоўскага // Культура. 2000. 29 студз. – 5 лют.

**Рагойша Вячаслаў.** Асяніна [рускага паэта і перакладчыка Якава] Хялемскага // Літ. і мастацтва. 2000. 25 лют.

**Ромм Т. А.** Социокультурные основания формирования социальной педагогики в России // Сацыяльна-педагагічная работа. 1999. № 6. С. 43–52.

**Рублеўская Людміла.** Два дні ў Маскве й трынаццаць год між імі // ARCHE. 1999. № 4. С. 165–168.

**Сабалеўскі Антон** [Масква]. Роздум над фотаздымкамі // Скарыніч. Мн., 1999. Вып. 4. С. 188–189.

**Сальников В. И.** Проблемы энергоинформационного благополучия населения России и Беларуси // Труды Первого конгресса “Демографические проблемы Беларуси”. Минск, 1999. С. 74–75.

**Сидорович Ольга.** Великий путешественник Николай Пржевальский — белорусского рода // 7 дней. 2000. 8 янв.

**Смирнов А. С.** Контрапункт в петербургских повестях Н. В. Гоголя // Весн. Гродзен. дзярж. ун-та. Сер. 1. 1999. № 1. С. 86–90.

**Спасюк Алена.** “Сяброўства” [у Яраслаўлі] шукае аднадумцаў: [Інт. з Тамарай Фадзеевай] // Голас Радзімы. 2000. 19 студз.

**Старченков Г.** Страсти вокруг Каспия // Бел. думка. 2000. № 1. С. 132–137.

**Суарес Лариса.** Учитель всех учителей: 175 лет со дня рождения К. Д. Ушинского // Пралеска. 1999. № 11. С. 10–14.

**Улашчык Мікалай.** Думкі пра мінулае і сучаснае: (З рукапіснай спадчыны) / Публ. А. М. Улашчыка [Масква] // Скарыніч. Мн., 1999. Вып. 4. С. 216–223.

**Федечко С. А.** Внешнеполитический курс России в отношении бывшей Югославии в 1993–1996 гг. // Берасцейскі хранограф. Брэст, 1999. Вып. 2. С. 3–7.

**Федута А. И., Егоров И. В.** Читатель в творческом сознании А. С. Пушкина. Минск, 1999.

**Хилькевич Христофор.** Большой “онармак”, или Взгляд на реконструкцию Москвы с белорусской колокольни // Туризм и отдых. 2000. 20 янв.

**Чырук Галіна.** Пушчын. Пушкін. Беларусь // Звязда. 2000. 19 студз.

**Черкас В. Н.** Учебно-методическое пособие по русскому языку: Для иностранных студентов (на материале текстов по истории России и Беларуси). Минск, 1998.

**Шумейко Михаил.** Российские архивно-археографические периодические издания в 1999 году // Архівы і справаводства=Архивы и делопроизводство. 2000. № 1. С. 44–48.

### • Беларусь – Якуція

**Баркоўскі Алесь.** Гласны Якуцкай гарадской думы [Дз. Нікіфароўскі] // Голас Радзімы. 2000. 26 студз.

### • Беларусь – Румынія

**Бутэвіч Анатоль.** З надзеяй адкрываем каляндар: Навагоднія рэфлексіі пасла Беларусі ў Румыніі Анатоля Бутэвіча // Звязда. 2000. 4 студз.

### • Беларусь – Славакія

**Досталь М. Ю.** Перфецкий Е. Ю. — популяризатор славянской идеи в Словакии в 20-е годы XX в. // Берасцейскі хранограф. Брэст, 1999. Вып. 2. С. 273–279.

**Маслоўскі Віталь.** Сувязі братэрства: [Арт. выкладчыка кафедры славістыкі Прэшаўскага універсітэта] // Настаўн. газ. 2000. 22 студз.

### • Беларусь – татары

**Лакотка А. І.** Помнікі дойлідства татар-мусульман у архітэктурнай спадчыне Беларусі // З гісторыі вякоў і пакаленняў Іўеўскага краю. Гродна, 1999. С. 50–56.

### • Беларусь – Турцыя

**Вишневская Марина.** Турчанка Шефика Кутлуэр [вядомая флейтыстка] возвращается в Беларусь // Нар. воля. 2000. 28 студз.

### • Беларусь – Украіна

**Амельчанка Мікалай** [Кіеў]. Кароль духоўнасці: [Пра Уладзіміра Караткевіча] / Уступ. слова С. Законнікава / Пер. з рус. А. Урбана // Полымя. 1999. № 12. С. 115–121.

**Гон М.** Евреи Восточной Галиции в условиях экономического кризиса 1929–1933 гг.: Тенденции экономической и общественно-политической жизни // Берасцейскі хранограф. Брэст, 1999. Вып. 2. С. 34–44.

**Казак Нэлі** [Кіеў]. “Для мяне ён проста Валодзя…” [Караткевіч] // Голас Радзімы. 2000. 5 студз.

**Ковба Ж., Мицель М.** [Кіеў]. Белорусские евреи во Львовской еврейской общине (1944–1970 гг.) // Берасцейскі хранограф. Брэст, 1999. Вып. 2. С. 44–54.

**Паўлышын Марко.** Казакі на Ямайцы: праявы посткаляніялізму ў сучаснай украінскай культуры // Фрагмэнты. 1999. № 1–2. С. 200–216.

